PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 36 (1895) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 6 ВЕРАСНЯ 1992 г. ЦАНА 2000 зл.

## Зварот

**Яго Высокапраасьвяшчэнства, Высокапраасьвяшчэньнейшага САВЫ, Архіепіскапа Беластоцкага й Гданьскага з нагоды пераняселіня сьв. Мошчаў сьв. Мучаніка Дзіцяці ГАЎРЫІЛА 21-24.X.1992 г. з Гродна ў Беласток.**

**Глыбокашаноўным Пастырам, Прападобнаму Манаству й усім Набожным Дзецям Беластоцка-Гданьскай Епархіі**

*«Сьпявайце Госпаду песьню новую, бо Ён цуды ўчыніў» /Пс. 97, 1/.*

Нязьведаны лёсы Божыя й ласка Яго нявыказаная! Ящчэ ня так даўно многія з нас марылі пра паломніцтва ў горад Гродна, каб пакланіцца сьв. Мошчам сьв. Мучаніка Дзіцяці Гаўрыіла Заблудаўскага. Сёньня, з волі Усявышняга Госпада, Які вызначае лёсы Свае Царквы, сьв. Мошчы Сына Беластоцкай зямлі, Апекуна нашай моладзі й дзяцей, будуць перанесены 21-22.IX.1992 г. з г. Гродна ў г. Беласток.

«Цудоўны Бог у Сьвятых Сваіх!» - усклікаем сёньня Усявышняму. Жывы Гасподзь і жывая Яго Сьвятая Царква!

Рыхтуючыся да ажыцьцяўленьня гэтай гістарычнай, царкоўнай падзеі, перш за ўсё выказваю ўдзячнасьць і ўсхваленьне Богу. Як кіруючы архірэй, на тэрыторыі епархіі якога будуць знаходзіцца сьв. Мошчы, прыношу затым маю архіпастырскую падзяку Сьвятым Расейскай і Беларускай Цэрквам за захаваньне сьв. Мошчаў у гады ліхалецьця й смуты й перадачу іх цяпер нам.

Памятаем мы пра тое, што Расейскай і Беларускай Цэрквам суджана было самім абараняць сваё існаваньне крывёю многіх мучанікаў. І нягледзячы на тое, знайшлі яны сярод сваіх дзяцей тых, хто захаваў сьв. Мошчы Мучаніка Дзіцяці Гаўрыіла да сёньняшняга дня. Хвала ім і Пашана за тое!

Мошчы сьв. Мучаніка Дзіцяці Гаўрыіла будуць адзінымі мошчамі ў нашай Царкве. Гэта забавязвае ўсіх нас, асабліва ж жыхароў Беласточчыны, якая цесна зьвязана зь імі. Яны павінны ўнесьці ў наша асяродзьдзе «гарэньне духу», якое будзе садзейнічаць духоўнаму адраджэньню, разьвіцьцю й умацаваньню сьвядомай веры праваслаўнай, якая нас пабуджае да адказнага сьведчаньня яе акружаючаму нас сьвету, абароны яе ад хцівых ворагаў.

Пачынаючы з XVII стагодзьдзя, сьв. Мошчы Мучаніка Дзіцяці

*Працяг на стар. 5*

## НАВЕДАЎСЯ ПАСОЛ



Уладзімір Сянько, паўнамоцны і надзвычайны пасол Рэспублікі Беларусь у Польшчы, пабываў у Беластоку. Пасля размоваў з гарадскімі і ваяводскімі афіцыяламі, у чацвер 20 жніўня пасол спаткаўся з беларусамі, якія сабраліся ў сядзібе ГП БГКТ на вуліцы Варшаўскай.

Спадар Сянько прызнаўся, што ў дыпламатыі працуе ўжо амаль 20 гадоў /з 1974 г. ён працаваў у савецкім пасольстве ў Варшаве/, але ў Беласток першы раз наведаўся адно сёлета. Такая была, казаў ён, палітыка Савецкага Саюза, што не цікавілася яна праблемамі беларускай нацыянальнай меншасці ў Народнай Польшчы. У сучасны момант, калі Беларусь пачала весці самастойную замежную палітыку, сітуацыя змянілася і будзе змяняцца далей - кантакты Беларусі са сваімі суродзічамі ў Польшчы будуць пашырацца.

Талковай размовы з пасломк, трэба прызнацца, не атрымалася: прысутныя, што бралі голас, наогул «закідалі» госця праблемамі і клопатамі арганізацыйнага і матэрыяльнага характару, якія дакучаюць беларускаму руху ў агульнасці і БГКТ у прыватнасці. Крыху забыўшыся пра тое, што пасол Рэспублікі Беларусь у Польшчы пастаўлены дзеля таго, каб дбаць пра інтарэсы грамадзян свае дзяржавы, а не польскае /гэта значыць - пра нас/. Але - нічога. Пагаварылі і разышліся ў добрым настроі.

Хацелася б мне тут зрабіць адну заўвагу доктару Янку Зенюку, які ў сваім, даволі такі рассупоненым, выступленні выказаў прэтэнзію /крыўду – сваю ці бэгэкатоўскую?/, што, вось, у Беларусі палякі займаюць высокія пасады ў дзяржаўным апараце і адміністрацыі, а беларусы ў нас... Займаюць, бо іх выбіраюць. А ў нас, калі не выбіраюць, дык таму, што самі мы сябе не выбралі... Ці ж забыўся ён пра вынік галасавання ў апошніх выбарах, альбо ў выбарах у самакіраванне? Такая ёсць дэмакратыя, шаноўны доктар, і Рэспубліка Беларусь, якая хоча будаваць дэмакратыю, ніякай інтэрвенцыі ў гэтай справе рабіць у Польшчы не будзе. Таму мне цікава - каму адрасаваныя былі гэтыя словы пра непарытэтны раздзел важных пасадаў - sobie a muzom ці, можа, журналістам «Кур'ера Падляскага», якія гэткія «смачныя кавалкі» падхопліваюць мігам і лупяць на сваіх палосках беларусам па заслугах і па дурных мазгаўнях?

**ЯН МАКСІМЮК**

## ЧАКАЕМ АЦЭНКІ

Ужо не раз я меў аказію браць голас на старонках „Нівы", аднак упершыню раблю гэта як галоўны рэдактар. Сітуацыя „Нівы" не ёсць лёгкая. Як амаль усе цяпер, маем і мы свае фінансавыя клопаты, а пасля страты камп'ютэраў у галіне тэхнічнай падрыхтоўкі да друку вярнуліся мы на некалькі гадоў назад.

Упершыню галоўны рэдактар не назначаўся, а быў выбраны прадстаўнікамі беларускіх арганізацый, аб'яднаных у Праграмнай радзе нашага тыднёвіка. Калегам з рэдакцыі, якія запрапанавалі маю кандыдатуру на гэтую пасаду, членам Рады, якія аддалі кіраванне „Нівай" у мае рукі і чытачам магу толькі абяцаць, што зраблю ўсё магчымае, каб наш тыднёвік знайшоў належнае сабе месца ў жыцці беларускага насельніцтва Беласточчыны. Спадзяюся не толькі на сябе і сваю волю працы, але перад усім на вопытны рэдакцыйны калектыў, верных і новых карэспандэнтаў ды падтрымку чытачоў „Нівы".

З радасцю буду вітаць на нашых старонках усіх тых, якія прыйдуць да нас з поглядамі іншымі, чым тыя, якія мець будзе рэдакцыя.

Змены мэрытарычнага характару, якія будуць наступаць, перш за ўсё будуць заключацца ў новым варыянце рэдагавання „Нівы". Нецярпліва будзем чакаць ацэнкі нашых чытачоў і напачатку паціху разлічваем на іхнюю памяркоўнасць.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**



*Выхад паломікаў у Супрасль.*

## З БЕЛАСТОКА Ў СУПРАСЛЬСКУЮ ЛАЎРУ

Сёлетняя пілігрымка /9 жніўня/ з Беластока ў Супрасль на сьвяткаванне Супрасльскай Іконы Божай Маці, намаляванай паводле ўзору Смаленскай Адзігітрыі - Пуцевадзіцельніцы /яе свята адзначаецца 10.08./ была ўжо другім паломніцтвам у Супрасльскую Дабравешчанскую лаўру. Паломнікі сталі збірацца ў прыхлдзе Святой Прамудрасці раніцай, каб прыняць удзел у літургіі. Пачалася яна малебнам за ўсіх «путешествующих» у Супрасль - месца моцна заслужанае для

*Працяг на стар. 5*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ, ШТО...

Brak świątyń, a choćby kaplic czy domów modlitwy wyznań protestanckich i prawosławnych wskazuje, że w Białymstoku XVIII-wiecznym nie było stałych mieszkańców tych wyznań. /.../ Świątynie protestanckie i prawosławne pojawiły się dopiero pod wpływem przemocy politycznej. /.../ Białostocka kaplica i cmentarz św. Marii Magdaleny w posiadaniu parafii prawosławnej były i są po dziś dzień żywym świadectwem przemocy polityczno-administracyjnej władz carskich.

*/"Rubieże", czerwiec 1992/*

Усё ясней яснага. Цяпер, калі Беласток нарэшце вызваліўся ад царскага прыгнёту, трэба ліквідаваць гэтую гістарычную недарэчнасць і ўсе ахвяры палітычна-адміністратыўнага насілля перавярнуць у каталіцызм. А можа - у мусульманства? Кажуць, што за грошы арабскіх шэйкаў /ці, можа, шыітаў/ паставяць дыхтоўную мячэць у Беластоку. А мусульманскія малітвы перакладзеныя на беларускую мову ўжо ў пачатку XVII стагоддзя. І запісаны яны арабскім алфавітам! І найважнейшае - Беластока тады не было!

* * *

Mili czytelnicy. /.../ Mimo wcześniejszych zapewnień, nie udało się nam, niestety, wprowadzić wydawania «Czasopisu» w pierwszej dekadzie każdego miesiąca. Kiedy wydawało się nam, iż wszystko w tym kierunku uczyniliśmy - nieoczekiwanie pojawiła się u nas «Niwa». Komputery przygotowane głównie dla naszego miesięcznika zaczęły pracować dla «Niwy». Skutek stał się widoczny nieomal natychmiast. «Złapaliśmy» dwutygodniowe opóźnienie.

*/"Czasopis", lipiec-sierpień 1992/*

Вось што называецца беларуская аблуда, psiakrew! Najmilsi czytelnicy. «Ніва», фактычна, паявілася ў «Часопісе», але не нечакана, і не з пустымі рукамі - паставіла гэтым маладзёнам лазерную друкарку: такім чынам можна было прыспешыць друк таго часопіса прынамсі на дзве дэкады. А яны не толькі што złapali opóźnienie, але й прынародна нас абсабачылі...

Ах, маладосць, маладосць... І яшчэ - O tempora! O mores!

* * *

У пушчы паміж Гарадком і Чорнай Беластоцкай, як інфармуе *«Gazeta Wyborcza»*, на 1 кіламетр лесу прыпадае адна самагонная „фабрыка". Апошнім часам паліцыя ўзялася ліквідаваць гэтую гаспадарчую інфраструктуру ўзрыўчаткай. Пасля выбухаў падае самагонны дождж, а самагонны пах мяшаецца ў невядомай прапорцыі з пахам жывіцы.

А Сакрат Яновіч кажа, што Усходняя Сцяна апустыніцца і зарасце лесам. Ну і што? Гаспадарчая дзейнасць, як бачым, можа ўзнімацца і ў лесе. І то з гукам!

*/Gazeta Wyborcza" nr 200, 2 6.08.1992 r./*

* * *

Alkoholizm jest w zasadzie chorobą nieuleczalną...

*/"Co słychać w gminie", Kleszczele, maj 1992/*

* * *

Беларусь расфармавала V танкавую армію. 75 афіцэраў /у тым - 11 генералаў/ стане перад судом, абвінавачаных у хабарніцтве і крадзяжы вайсковай маёмасці. Намеснік камандзіра арміі, нейкі Арцяменка, месяц перад гэтым мілітарным скандалам развітаўся з Беларуссю і вярнуўся на Украіну, дзе паступіў таксама на службу ў арміі.

Украінскі шпіён у беларускай арміі ці, можа, шукальнік новых матэрыяльных рэсурсаў?

*/"Gazeta Wyborcza" nr 200, 26.08.1992 r./*

## З МІНУЛАГА ТЫДНЯ

Забастоўкі ў краіне працягваліся. Баставалі рабочыя буйных заводаў, між іншым, на Фабрыцы малалітражных самаходаў у Тыхах, на Трактарным заводзе „Урсус" і на шахтах „Розбарк" і „Іовіш". З-за нізкай зарплаты страйкавалі таксама рабочыя Фабрыкі станкавых патронаў („Ухвытаў") у Беластоку.

**З'езд палоніі і палякаў,** якія праводзіўся ў Кракаве, вырашыў не ствараць адзінай для ўсёй палоніі арганізацыі. Прысутныя звярнуліся з заклікам гарантаваць правы польскай нацыянальнай меншасці ў посткамуністычных краінах.

З 22 чэрвеня існуе Незалежны рускі рэгіён Ісусавага таварыства. Рэгіён ахоплівае тэрыторыю былога Савецкага Саюза, з выключэннем Прыбалтыкі, і згуртавана ў ім 27 езуітаў, якія працуюць у Маскве, Навасібірску, Омску, Карагандзе і ў Беларусі. Галавой рэгіёна з'ўляецца паляк, а. Станіслаў Апеля — галоўны рэдактар часопіса „Przegląd Powszechny".

Эксцэсы нямецкіх нацыяналістаў у Ростаку: сотні мясцовых скінаў, а таксама неафашыстаў з Гамбурга, Любека і Берліна штурмавалі інтэрнат з чужаземцамі, якія папрасілі прыстанішча. Жыхары квартала, у якім знаходзіцца інтэрнат, падтрымоўвалі хуліганаў і перашкаджалі паліцыі ў акцыі.

**Папа рымскі Ян Павел II** выказаўся, што Еўропа мусіць прасіць у цыганоў прабачэння за учыненыя ім несправядлівасці, якія часта здараліся ў мінулым.

З'езд цыганоў праходзіў у Барку і Сэйнах. Арганізавалі яго Цыганскі саюз (Rromani Union) і Фонд „Пагранічча". З'езду спадарожнічалі навуковая сесія на тэму гісторыі, мовы, традыцыі і абрадаў цыганоў і прэсканферэнцыя, прысвечаная прысутнасці цыганоў у сучаснай Еўропе.

**Ад новага года Польшча не будзе імпартаваць электраэнергіі,** а Беласточчына не будзе вымушана карыстацца электратокам з Усходу. На пераломе 1992/1993 гадоў будзе здадзена ў карыстанне новая энергетычная лінія, якая спалучыць раён Беластока з польскай энергетычнай сістэмай. Пакуль што беластоцкі рэгіён не мае адпаведных спалучэнняў з рэштай Польшчы і трэба для яе купляць некалькі дзесяткаў мегаватаў не надта таннай энергіі з Беларусі. Дзякуючы новай лініі Польшча будзе зарабляць на транзіце электраэнергіі, калі, напрыклад, Расія схоча прадаваць яе на Захад. Ужо сёння наша краіна зарабляе на экспарце электратоку (3 більёны ватагадзін) у Аўстрыю і Швейцарыю.

**З 1 верасня г.г. узноўлены турыстычны рух** на кантрольна-прапускным пункце Кузніца-Брузгі. Гэтым КПП могуць карыстацца грамадзяне Беларусі і Польшчы, якія падарожнічаюць па запрашэннях, „ваўчэрах", на сваіх аўтамашынах або на маршрутных мікраатобусах. Дагэтуль перасякаць граніцу ў Брузгах можна было толькі па службовых камандзіроўках.

Сяляне, якія пасвілі кароў у ваколіцах Менска, наткнуліся на лясной паляне на кучу адсечаных людскіх галоў, завернутых у поліэтыленавыя мяшкі. Паведамілі яны пракуратуру. Неўзабаве выявілася, што гэта ўчынак не злачынцаў-дэгенератаў, а толькі Анкалагічнага інстытута ў Бараўлі. Інстытут такім чынам вызваляўся ад целаў, памёрлых на рака, за якімі ніхто не даведваўся. У такі спосаб Інстытут эканоміў грошы, бо згодна закону памёрлых трэба было б пахаваць за кошт дзяржавы, а ў гэтым выпадку значыць — Інстытута.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- Дэталёвая праграма ўрачыстага перанясення мошчаў св. Гаўрыла.
- Фэстын у Сямяцічах.
- Час шавіністаў.
- Як пыталі беларусаў, ці яны яшчэ беларусы?
- Парафіяльны фестываль у Мельніку.

**ВАЛЯНЦІНЕ і СЯРГЕЮ ЛУКАШУКАМ**

**з Бельска-Падляшскага глыбокае спачуванне з прычыны смерці бацькі і цесця**

**выказваюць Бельскі аддзел і Галоўнае праўленне БГКТ**

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### СЛОВА АБ ПРАЕКТАХ СКАЖА КАНСУЛЬТАТЫЎНЫ САВЕТ

Пытанні падрыхтоўкі законапраектаў да чарговай сесіі былі абмеркаваны на нарадзе кіраўнікоў пастаянных парламенцкіх камісій, якую правёў першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Вячаслаў Кузняцоў.

У папярэднім парадку дня сесіі 89 пунктаў. У яго, у прыватнасці, уключаны вялікія блокі эканамічных і ваенных законапраектаў. На пасяджэннях Кансультатыўнага савета прадугледжваецца дэталёва, з удзелам распрацоўшчыкаў і экспертаў абмеркаваць асноўныя дакументы, што выносяцца на сесію.

### ПАЕХАЛІ, АЛЕ НЕ ЎСЕ

Здаецца, грамадзяне СНД змогуць і ў далейшым падарожнічаць без віз па краінах Садружнасці. Але не па ўсіх.

Пагадненне аб гэтым было нядаўна парафавана на спатканні кіраўнікоў консульскіх служб у Менску. Таксама падрыхтавана ўжо для падпісання на нарадзе шэфаў дзяржаў і ўрадаў, якая неўзабаве адбудзецца ў Бішкеку, пагадненне «Аб узаемным прызнанні віз дзяржаў - удзельніц СНД» і пратакол «Аб мэтах і прынцыпах каардынацыі дзеянняў у консульскай галіне».

Як усім стала вядома, парафаваць гэтыя дакументы адмовіліся дэлегацыі Азербайджана і Малдовы. Ад Туркменістана на менскае спатканне ўвогуле ніхто не прыехаў.

### ПАСПРАБУЙ ПАЛІЧЫЦЬ!

На сённяшні дзень у Беларусі выяўлена 83 выпадкі носьбітаў віруса СНІДу, у тым ліку шасцёра дзяцей. Зрэшты, некаторыя спецыялісты мяркуюць, што гэтыя лікі можна смела павялічыць на дзесяць разоў - тады яны будуць набліжаны да рэальнасці.

### РЭАЛЬНЫЯ КЛАСЫ СТАНУЦЬ РЭАЛЬНАСЦЮ

З новага навучальнага года для тых, хто жадае атрымаць разам з сярэдняй адукацыяй яшчэ і прафесію, у Менску адкрываюцца так званыя рэальныя класы, якія выступяць своеасаблівымі пераемнікамі рэальных вучылішчаў і гімназій, што існавалі ў дарэвалюцыйныя часы. У рэальных класах школьнікі будуць чатыры дні на тыдзень вучыцца, а два - замацоўваць веды ў прафесіянальна-тэхнічных вучылішчах і вучэбна-вытворчых камбінатах. Новыя класы створаны спецыяльна для сацыяльнай аховы тых, хто не пройдзе па конкурсу ў 10-ы клас. Усяго ж у сталіцы Беларусі 1 верасня села за парты больш чым у 200 школах каля 250 тысяч вучняў.

### БЕДНАСЦЬ - НЕ ЗАГАНА. І УСЁ Ж...

На Меншчыне за рыскай беднасці жыве 80 тысяч чалавек, прычым гэтая лічба пастаянна павялічваецца. Сярод іх 32 тысячы пенсіянераў, 12 тысяч адзінокіх старых, 4300 сем'яў, якія даглядаюць інвалідаў першай групы, 4700 адзінокіх маці і 6,6 тысячы мнагадзетных сем'яў. Ва ўсіх пералічаных катэгорыях даход на аднаго члена сям'і меншы за мінімальную зарплату.

### ВЫШЭЙ ГАЛАВЫ НЕ СКОКНЕШ

Гарадская пракуратура горада Менска апратэставала рашэнне Менскага гарадскога савета аб новых мерах адміністрацыйнага ўздзеяння за парушэнне Правіл дарожнага руху, пры якіх максімальны размер штрафу дасягаў нават 10 тысяч рублёў /за кіраванне транспартным сродкам у нецвярозым стане/. І справа не ў тым, што менскія пракуроры п'юць за рулём або перавышаюць устаноўленую хуткасць руху. Не, яны лічаць, што такія меры могуць знаходзіцца толькі ў кампетэнцыі Вярхоўнага Савета рэспублікі.

### БАІ Ў КРЭПАСЦІ

Усё больш крымінагенным месцам становіцца легендарная Брэсцкая крэпасць. Чарговым злачынствам стаў напад трох маладых людзей на 40-гадовую грамадзянку, у якой быў забраны чамадан з рэчамі, пасля чаго, тут жа, на валах крэпасці, жанчыну згвалцілі.

### НЕ ЎМЕЕШ ПРАЦАВАЦЬ - ПЛАЦІ!

Распараджэннем беларускага ўрада ў 35 разоў павялічаны размер штрафаў за неэфектыўнае выкарыстанне дэфіцытных сёння чыгуначных вагонаў і кантэйнераў. Такім чынам, не ўмееш працаваць - плаці!

*/л/*

# БЕЛАРУСКАЕ СВЯТА Ў КЛЯШЧЭЛЯХ

„Белорусы, нэзалежно од того, якім дыялектом говорат, зостаюцьця белорусамі. Усіх еднае руодная піэсьня" — сказаў са сцэны на кляшчэлеўскай спартыўнай пляцоўцы Мікалай Бушко. Пасля гэтага ўсе выканаўцы і шмат хто з публікі адспявалі песню „Люблю наш край", якая стала ўжо, ад некалькіх гадоў, стандартным фіналам усіх беларускіх музычных імпрэз на Беласточчыне. Наогул выконваецца яна стоячы. Так было і ў Кляшчэлях у нядзелю 23 жніўня, на заканчэнне беларускага народнага фэсту, які арганізавалі Беларускае грамадска-культурнае таварыства, Гмінная управа і Гмінны асяродак культуры ў Кляшчэлях.

Ганаровым госцем урачыстасці быў паўнамоцны і надзвычайны пасол Рэспублікі Беларусь у Польшчы Уладзімір Сянько. „Гэта зусім натуральнае, што прадстаўнік Беларусі, — сказаў ён у прывітальным слове, — наведвае Беласточчыну, зямлю, на якой пражываюць суродзічы. Мне вельмі прыемна, што сёння тут такі добры настрой, радасная атмасфера. Жадаю вам, каб такое было заўсёды на гэтай гасціннай беластоцкай зямлі".

Фэст сапраўды праходзіў у надзвычайнай атмасферы. Пастараліся аб гэтым арганізатары — сцягнулі туды многа добрых выканаўцаў і забяспечылі імпрэзу такімі неабходнымі прадуктамі, як піва і гарачыя каўбаскі для дарослых, марожанае, цукеркі і каляровыя цацкі для дзяцей. Дапамагло і надвор'е — свяціла сонца, але не замоцна, паддуваў вецярок ды таксама ўмеру. Адным словам, аб'ектыўныя і суб'ектыўныя варункі склаліся, што лепш і не трэба.

Пачаў фэст старшыня Галоўнага праўлення БГКТ Аляксандр Баршчэўскі. Расказаў ён, між іншым, коратка пра пабудову Беларускага музея ў Гайнаўцы і папрасіў сабраных не паскупіць на гэтую справу і „свайго сардэчнага граша". „Кожны, хто ўплоціць свае цяжка заробленыя залатоўкі, можа лічыць музей таксама сваёй уласнасцю" — заахвочваў старшыня. А сярод публікі, якой сабралася каля тысячы, кружыла ўжо скарбонка. Была і кніжная латарэя, даход з якой таксама прызначаўся на заканчэнне пабудовы музея ў Гайнаўцы. Працаўнікі БГКТ прадавалі беларускія кніжкі. Зацікаўленне імі, на жаль, было мізэрнае. Сёлета, на ўсіх такога тыпу мерапрыемствах беларускае друкаванае слова папулярызуюць „белавежцы" Віктар Швед і Янка Целушэцкі. Былі яны і ў Кляшчэлях. Сваю кніжку пра беларускі фальклор на Беласточчыне падпісваў таксама Аляксандр Баршчэўскі.

На працягу чатырох гадзін, ад другой да шостай пасля поўдня, працягваўся канцэрт. Вяла яго вядомая пара канферанс'е Валянціна Ласкевіч і Мікалай Бушко. Стараліся яны трапіць да ўсіх прысутных, гаварылі і на літаратурнай беларускай мове, і на палескім дыялекце паўднёва-ўсходняй Беласточчыны, і па-польску. У канцэрце прынялі ўдзел мясцовыя калектывы: „Любашкі" з Дабрывады і „Каліна" з Дашоў ды госці: хор Беластоцкага аддзела БГКТ, хор Гайнаўскага дома культуры (найбольшы і найлепшы беларускі хор у Польшчы — адрэкамендавала яго Валянціна Ласкевіч), „Хлопцы-рыбалоўцы" з Рыбалаў, Ала Дубец з Санока (хаця ўраджэнка Беластока), „Лявоны" з Воранава ды польскі калектыў „Казюкі віленьскае", які працуе пры Ваяводскім асяродку анімацыі культуры ў Беластоку.

Пачынаць канцэрт меўся калектыў з Абухава, што на Гродзеншчыне, які прыехаў па запрашэнні „Любашак", але хлопцы не змаглі дапасаваць сваю апаратуру да польскага электрычнага току. На шчасце быў з імі Аляксандр Лойка (ведаем яго мы са Свята беларускай культуры як кіраўніка калектыву „Гарадніца"). Ён пад гармонік праспяваў колькі вясёлых песняў і залагодзіў няўдалы пачатак абухаўцаў. Пасля яго ўжо паплыла-пакацілася песня, заварожваючы публіку. Найлепшым доказам гэтага было тое, што людзей не меншала, а ўсё большала, аж да самага канца канцэрта.

А закончылі яго воранаўскія „Лявоны". Тым, хто іх калі-небудзь бачыў і чуў, лішне не трэба расхвальваць якасці гэтага калектыву. Кіраўніком яго з'яўляецца Вячаслаў Мацкевіч. Калектыў, як сказаў Мікалай Бушко скалясіў паўсвету, уключна з Амерыкай, і ўсюды яго ўспрымалі энтузіястычна, усюды ўзнагароджвалі. Жыхары Кляшчэль і навакольных вёсак таксама па-свойму ўзнагародзілі „Лявонаў" — воплескам не было канца, музыкантам давялося бісаваць, затым яшчэ раз і яшчэ...



*Канцэрт вялі Валянціна Ласкевіч і Мікалай Бушко.*

Воранаўцы не засталіся ў даўгу — у падзяцы за гасціну ахвяравалі войту Кляшчэлеўскай гміны Аляксандру Сяліцкаму прыгожы кубак. Спадар Сяліцкі публічна паабяцаў, што змогуць з яго піць піва ўсе жыхары гміны. Каб толькі было за што і, каб больш было такіх нагодаў, як гэтая ўрачыстасць.

Ходзячы пасярод людзей, прыслухоўваючыся да таго, што яны гавораць пра фэст, мушу прызнацца, што не чуў я слова крытыкі. Адно, чаго шкадавалі прысутныя на фэсце, гэта тое, што такія імпрэзы арганізуюцца надзвычай рэдка. Ніхто толкам не мог прыпомніць, калі апошні раз у Кляшчэлях ладзіўся падобны фэст. Раней былі хаця ўрачыстасці дажынкі, дык на іх запрашалі розныя, пераважна фальклорныя, калектывы. Цяпер аднак адвучваемся памалу ад такіх масавых публічных святкаванняў. Але, ці не шкада?

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**
**Фота аўтара**



*Публіка – хто сядзеў, хто стаяў.*

# НАШЫ ЛЮДЗІ

**Хведар Хлябіч** (1911 г. нараджэння) усё жыццё пражыў у вёсцы Рыбакі (за выключэннем бежанства ў дзяцінстве). Увесь час працаваў на зямлі. Працуе яшчэ і сёння. На скрыпцы грае з самога маленства, а на гармоніку навучыўся зусім нядаўна і выпадкова. Гэты інструмент цяпер яму больш падабаецца. І не так яшчэ надакучыў жонцы, як скрыпка.

Мастацкая, чуллівая душа дзядзькі Хведара праяўляецца яшчэ і ў іншым — у паэзіі. Першы верш надрукаваў у „Ніве" ў пачатку сямідзесятых гадоў. Апісаў ён у ім сваю вёску, ваколіцу, вялікая частка якой цяпер пад вадою Семяноўскага вадасховішча. У іншых сваіх вершах таксама пісаў пра знаёмае, пра тое што бачыў, пра што чуў, што перажыў.

А вось самы апошні верш Хведара Хлябіча, пра дрэнных і добрых турыстаў, якімі запоўнілася апошнім часам ваколіца вёскі Рыбакі.



### ТУРЫСТЫ Ў РЫБАКАХ

У нас на Нарві ест запора,
многа стрымана вады.
Чуў такія разгаворы —
дайсці можа да быды.

Быда ўжо іншых ні мінула,
хто аб тым падумаць мог?
У вадзе ўжо ўтанула
чалавек аж трох.

У нас турысты грубы, тонкі,
ідут па чтэрах, па пяцёх,
бульбу нішчат горш за стонку,
шчэ малую, як гарох.

Горш як бульбяна зараза, —
расказаць пра іх магу —
у нас за вёскай драгаўсказа
сагнулі чыста ў дугу.

На пляжы паляцца агнішчы,
на агонь трэба паленаў —
малады лес яны нішчат,
пні высокі па калена.

Бо ў нас пляжа ест бясплатна,
балаган тут штораз горшы
і ўсё ніакуратна, ну вядома,
як у Польшчы.

І такія ест турысты,
каб сказаць пра іх агульна,
яны спраўны, лоўкі, чысты,
ні капают яны бульбы.

Малака, бульбы чы хлеба
далікатна яны просят
і калі ім чаго трэба,
за ўсё грошы нам прыносят.

Такіх я перапрашаю
і прыходзьце, бардзо проша,
прадаць бульбы абяцаю,
навет часам і без грошай.

Пры дарозі мая хата,
з боку правага якраз,
номер хаты ест дзевяты
і пры ёй вялікі вяз.

**ХВЕДАР ХЛЯБІЧ**




# БЕЛАРУСКІЯ КАПІТАЛІСТЫ

**Частка IX**

Выкарыстоўвачы, мабыць, далёкія ад навуковай дакладнасці, крытэрыі ацэнкі гаспадарчай рэчаіснасці, хацелася б мне сучасны польскі капіталізм падзяліць на наступныя катэгорыі: капіталізм вытворчы (прадукцыйны), паслуговы, гандлёвы і мафійны. Я, як лірык, не прэтэндую на навуковасць і дазваляю сабе на пэўную паэтычную свабоду ў інтэрпрэтацыі праблемы. Калі прыглядаюся да польскай гаспадарчай сучаснасці, дык здаецца мне, што ў Польшчы вельмі слабы сёння капіталізм вытворчы, крыху сільнейшы капіталізм паслуговы, затое вельмі сільны капіталізм гандлёвы і, мабыць, найсільнейшы, найбольш дынамічны, капіталізм мафійны. Нядаўна прачытаў я толькі што выдадзеную кнігу Міраслава Дакоўскага і Ежы Пшыставы „Ва банк і ФОЗЗ, аб рабунку фінансаў дзяржавы" (выдавецтва „Антык", 1992).

У кнізе прадстаўлены надзвычайныя, па сіле вымовы, факты, якія сведчаць аб абкраданні нашай дзяржавы. На жаль, людзі, якія займаюцца гэтай ганебнай справай з'яўляюцца вельмі высока пастаўленымі дзяржаўнымі, гаспадарчымі, палітычнымі дзеячамі.

Калі гартаеш гэту кнігу, нельга не згадзіцца з шасцідзесяціпяцігадовым беларускім селянінам, які ў сваім жыцці не прачытаў ніводнай кніжкі, але ўсё жыццё кіраваўся практычным чуццём у ацэнцы рэчаіснасці. Вось яго словы:

„Ты мне тут гаворыш аб тым, што, значыцца, капіталізм стаўся канечнасцю і, што беларусы таксамо як і іншы павінны старацца стаць капіталістамі. То я табе на гэто скажу так: капіталізм гэто разбой. Я яго папробоваў у Польшчы да вайны і добрэ помню чым вон, гэты капіталізм пахне. Капіталізм кіруецца воўчаю засадаю, колькі схваціў зубамі толькі і адкусіў. Ты глянь на шосы, на школы, на асяродкі здароўя, на фабрыкі, на бальніцы, колькі ўсяго гэтаго зроблено для людзей. Здавалась б, усё зроблено для людзей. То чаму ж новы жонд, калі ўжэ ні можэ збудаваць нового, ні можэ па крайней меры ўтрымаць таго, што ўжэ даўно збудовано камунаю. Здавалась б, павінен забеспечыць усё тое, што ужэ е і ніхай вано служыт людзям. Не, паночку, усё разваліваецца на нашых ачах. Ты аглядаеш тэлевізар? То ж жонд хочэ, каб ніхто нічого ні рабіў, ні прадукаваў. Толькі дае пэўную свабоду для гандлю. Ты бачыў як паказалі сямілетніх дзетак як гандлюют на рынку і зарабляют сотні тысяч злотых? Ты мне скажы, які чалавек вырасце з такого хлопчыка, каторы маючы сем лет вучыцца, як кого ашукаць? Бачыш, вон зарабляе у дзень трыста тысяч, а табе шэсцьдзесят лет і ты зарабляеш колькі, напэўно тры разы менш чым той хлопчык з рынку. Так, паночку, за пяць лет, а можэ і хутчэй будзем мець такое цыганскае спалэчэнство, у каторым кажды будзе думаць толькі аб тым, як ашукаць другого чалавека. Я тут табе пра хлопчыкаў гавару, а што робят тые, у каго уласць у руках. Што ты думаеш, воны задоволяцца трохсот тысячамі ў дзень? Ім давай мільёны. От табе і капіталізм, паночку".

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

# БЕЛАРУСКІЯ ПАЛІТЫЧНЫЯ ЭЛІТЫ

Даследчыца беларускай гісторыі XX стагоддзя дацэнт Крыстына Гамулка апублікавала ў навуковым часопісе „Dzieje najnowsze" (1989, z. 2) артыкул пра беларускія палітычныя эліты ў гадах 1917-1921. Спадарыня Гамулка паясняе спачатку, што пішучы пра палітычныя эліты мае перад усім на ўвазе тых некамуністычных дзеячаў, якія ў той час стваралі структуры беларускай дзяржаўнасці. Аўтарка сабрала інфармацыю пра асяроддзе, з якога выводзіліся гэтыя палітыкі, пра іх веравызнанне, адукацыю, працу, якую выконвалі пасля гэтага перыяду, а таксама пра нацыянальнасць бацькоў.

27 чалавек, якіх Крыстына Гамулка акрэсліла як самых выдатных, былі членамі цэнтральных органаў улады, ствараемай імі беларускай дзяржавы. Сярод іх знайшоўся таксама і Станіслаў Булак-Балаховіч, які хаця не быў стваральнікам дзяржаўных структураў, але аднак адыграў вялікую ролю ў галіне беларускай вайсковай арганізаванасці.

Найцікавейшае, на што, зрэшты, звяртае ўвагу аўтарка, гэта тое, што ўсіх гэтых людзей называлі тады „беларускімі буржуазнымі дзеячамі", хаця ніводзін з іх не быў мяшчанскага паходжання. 40% (11 чалавек) выйшла з сялянскіх сем'яў, 19% (5 чалавек) — з памешчыцкіх, а 17% (4 чалавекі) — з інтэлігенцкіх. 70% (19 чалавек) мелі вышэйшую адукацыю. Сярод іх найбольш было юрыстаў, настаўнікаў і журналістаў. 83% палітыкаў перад I сусветнай вайной або ў час яе былі рэдактарамі беларускіх газет або публікавалі там свае выказванні.

Сярод 27 дзеячаў 13 было праваслаўнага веравызнання (Баранаў, Багдановіч, Ярэміч, Крэчэўскі, Лёсік, Мятла, Рак-Міхайлоўскі, Серада, Смоліч, Уласаў, Сямашка, Воронька, Захарка), 13 — каталіцкага (Аляксюк, Булак-Балаховіч, Цвікевіч, Іваноўскі, Якавюк, Ластоўскі, браты Луцкевічы, Рагуля, Станкевіч, Тарашкевіч, Цярэшчанка, Аўсянік). Не акрэслена веравызнанне аднаго дзеяча (Кахановіч). Бацька Багдановіча па нацыянальнасці расеец, а маці Алексюка, Балаховіча, Ластоўскага і Станкевіча — палякі. Усе аста-нія за бацькоў мелі беларусаў.

Пасля перыяду 1917—1921 г., калі не ўдалося стварыць беларускую дзяржаўнасць, дарогі палітыкаў разышліся. Некаторыя з іх (Ластоўскі, Цвікевіч, Крэчэўскі) стварылі беларускі ўрад на эміграцыі ў Коўне, іншыя арганізавалі палітычнае і грамадскае жыццё ў Польшчы (Тарашкевіч, Луцкевіч, Рак-Міхайлоўскі, Рагуля, Станкевіч), яшчэ іншыя заняліся выключна навукай (Іваноўскі) або спынілі ўсялякую палітычную дзейнасць (Булак-Балаховіч).

У другой палове дваццатых гадоў некаторыя „буржуазныя палітыкі" паверылі ў шчырасць нацыянальных ідэяў прапагандаваных бальшавікамі. Амаль ніхто з тых, хто рашыўся пераехаць на тэрыторыю „беларускай сацыялістычнай" дзяржавы не перажыў гэтага „раю". Бальшавікі не жартавалі, калі называлі іх „буржуазнымі палітыкамі".

**М.**

# ДЗЯКУЮ ТАБЕ, АМЕРЫКА....

.. за „Дынастыю". Тым, што перажывае Блейк са сваімі жонкамі і яго сыны са сваімі каханкамі, захапляюцца сёння дзесяткі мільёнаў тэлеглядачоў у Польшчы. Хаця я і глядзеў усяго 3 або 4 серыі гэтага шматсерыйнага тэлефільма, дык ўпэўніўся, што зроблены ён знакаміта і выклікае ў глядачоў надзвычайнае ўражанне. З такой чуллівасцю ўспамінаюць толькі нейкі бразілійскі фільм (калі не памыляюся называўся ён „В каменным крэнгу"), які два гады таму дэманстраваўся на працягу некалькіх месяцаў. Тады я быў удзячны кіраўніцтву польскага тэлебачання за тое, што давала ў кожную нядзелю аж дзве серыі гэтага фільма.

У „Дынастыі" бачым агромныя салоны, фантастычныя аўтамабілі, прыгожыя жанчыны ў цудоўнай вопратцы і грошы, грошы, грошы.... Безупынна ідзе гутарка пра мільёны. Такая ёсць Амерыка. Калі жыць дык толькі там, а калі сябраваць, дык толькі з Карынгтонамі або з падобнымі на іх!

Кожны тыдзень больш за палову грамадзян Польшчы спалучаецца духоўна з амерыканскімі мільянерамі, і ў іх доме з'яўляюцца цудоўныя госці. Бываюць яны часам і амаральныя але ці хтосьці сумняваўся калісьці ў тым, што рабілі жыхары старажытнага Алімпа?

Цяпер пасля пятай гадзіны ў нядзелю, падвечар, сціхае ўся вуліца, знікаюць дзесьці разбуяненыя дзеці, хаваюцца старэйшыя жанчыны, якія патрапяць прастаяць некалькі гадзін, абмяркоўваючы нейкія важныя для іх справы, змаўкаюць тэлефоны, амаль поўнасцю спыняецца вулічны рух. Гэта відомы знак, што ўжо пачалася „Дынастыя".

Тады можна смела адкрыць акно ў пакоі, бо на вуліцы няма туманаў пылу, сесці ў мяккае крэсла, узяць кніжку ці газету або ўключыць кружэлку, напрыклад з музыкай Шуберта. Я ўпэўнены, што на працягу гэтай гадзіны мне ніхто перашкаджаць не будзе. І за гэтую гадзіну дзякую табе, Амерыка!

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

**P.S.** А калі кіраўніцтва тэлебачання дадумаецца даваць па дзве серыі ў кожную нядзелю пасля абеда, маеш удзячнасці не будзе краю-канца.




## З ДУХАМ ЧАСУ

Як толькі самы справядлівы і самы пабожны паляк беларускага паходжання ці наадварот - беларус польскага паходжання, даказаў у «Ніве» /н-р 32 ад 9 жніўня г.г./ неабходнасць перайменавання вуліцы Чырвонай Арміі ў Дубічах-Царкоўных, дык Юрка Ляшчынскі з Беластоцкага радыёвяшчання адразу схапіў мікрафон і папёрся да яго ўзяць інтэрв'ю. Сябры, ды дзе там - браты!

А калі б спадар Ляшчынскі быў больш здагадлівы, то і глупстваў не рабіў бы. Трэба было перад гэтым прачытаць, што наконт Савецкай Арміі пісаў зусім нядаўна, бо ў 1986 годзе і пазней, Мікалай Панфілюк і тады падумаць, ці варта ехаць.

Я калісьці апісаў у «Ніве», як адзін савецкі салдат памяняў чаравікі на хлеб, дык на гэта адразу з абурэннем адрэагаваў М. Панфілюк, абвінавачваючы мяне ў тым, што я прыніжаю гераічную Савецкую Армію. У канцы гэтага маралізатарскага выказвання, якое друкавалася ў «Ніве» ад 10 жніўня 1986 года, М. Панфілюк пісаў:

«Тут, дарагі Петручук Васіль, за далёка загнулі. Як я ведаю, праўдзівы савецкі салдат свае боты не будзе мяняць ні за што і босы не пойдзе ў строй, ці да сваіх таварышаў. У яго гонар даражэй свайго жыцця і мы былі сведкамі гэтых падзей у часе апошняй вайны».

Можа Панфілюк і Ляшчынскі скажуць, якім савецкім салдатам - праўдзівым ці непраўдзівым - хочуць яны скасаваць вуліцу ў Дубічах-Царкоўных? З гутаркі ў радыёперадачы «Пад знакам Пагоні» вынікае, што можна было б вуліцу Чырвонай Арміі назваць імем Германа Шыманюка-Скамароха. Але не таму, што ён у дваццатыя гады нашага стагоддзя кіраваў партызанскім атрадам, які змагаўся супраць польскай улады за /як піша «Беларуская савецкая энцыклапедыя» /<<сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне і ўз'яднанне Заходняй Беларусі з БССР>>, але таму, што Скамарох быў сваяком маці М. Панфілюка. І тут Панфілюк зноў трапіў у пастаўлены сабою капкан. За кім жа ён цяпер выказваецца? За Пілсудскім ці Скамарохам?

**ВАСІЛЬ ПЕТРУЧУК**

# ЗВАРОТ...

*Працяг са стар. 1*

Гаўрыіла праз усе бурлівыя часы й да сёньняшняга дня ўмацоўвалі веру праваслаўную нашых продкаў. Гэты абавязак мы сёньня ўзялі на сябе. Ці можам мы зрабіць інакш? Не! «З намі Бог, пакарайцеся, таму што з намі Бог».

Перанясеньне сьв. Мошчаў сьв. Мучаніка Дзіцяці Гаўрыіла - гэта сьвята ўсяе Царквы, але перш за ўсё Ваша, Дарагая Моладзь і Дзеткі. Нявіннае Дзіця Гаўрыіл адпакутаваў за Хрыста й Хрыстос Яго ўславіў.

І Вы натхнёныя Духам Сьвятым, арганізуючыся ў Брацтва Праваслаўнай Моладзі, выбралі Яго сваім Апекуном. Гэтым самым, яднаючыся ў малітве, Вы пажадалі наблізіць сабе Яго асобу й браць прыклад непахіснасьці ў веры. Вы неаднойчы зьвярталіся да мяне, як да свайго кіруючага епіскапа, каб весці старанні адносна вяртаньня сьв. Мошчаў на Яго родную, Беластоцкую зямлю. Пра тое Вы ўзносілі сваю малітву. І вось «ласкавы Гасподзь» і малітва Ваша пачута. Сьвятыя Мошчы, дасьць Бог, будуць з Вамі. За гэты дар Вы й усе мы дзякуем Богу. Самым вялікім дарам удзячнасьці Богу будзе наш асабісты ўдзел ва ўрачыстым перанясеньні сьв. Мошчаў.

Дарагія Пастыры! Вам даручана належна падрыхтаваць веруючых да ўрачыстай сустрэчы сьв. Мошчаў. Многалюдны асабісты ўдзел верую-чых у перанясеньні сьв. Мошчаў будзе самай моцнай прапаведзьдзю й сьведчаньнем нашай любові да Бога й Сьвятых Выбраньнікаў Яго. Падрыхтуйце сваіх прыхаджан, у тым моладзь і дзяцей, так, каб усе зразумелі вялікі, гістарычны сэнс падзеі, якая нас чакае.

Зьвяртаюся да Вас, Дарагія Бацькі! Рыхтуючыся да будучай урачыстасьці, узносьце малітву за сваіх дзяцей, каб яны маглі расьці й разьвівацца ў веры й боязі Божай і ў захаваньні ад спакусаў сьвету, дрэнных зьяваў цывілізацыі, захапленьня фанатызмам, наркаманіяй і алкагалізмам.

Вашы малітвы ў гэтыя дні падрыхтоўкі й удзел у перанясеньні сьв. Мошчаў сьв. Мучаніка Дзіцяці Гаўрыіла будуць неад'емным багацьцем вашых дзяцей, яны будуць садзейнічаць захаваньню іх чалавечай годнасьці. Малітвай умацуйце ў сабе сьвядомасьць, што выхаваньне дзяцей - гэта самая высокая ступень супрацоўніцтва з Богам.

Малітву архіпастырскую да Бога й сьв. Мучаніка ўзношу за ўсіх дзяцей і моладзь, каб яны расьлі на радасьць бацькам, гордасьць Царкве й Славу Божую.

Дарагія Юнакі, Дзяўчаты, Дзеткі! Вашы кветачкі, рассыпаныя на шляху шэсьця сьв. Мошчаў няхай дапоўняць малітву Вашых Бацькоў, а Ваша малітва няхай разбудзіць лянівых, слабых духам і марудных у сваёй веры.

Сьв. Мошчы сьв. Мучаніка Дзіцяці Гаўрыіла будуць пастаўлены ў кафедральным Сьвята-Мікалаеўскім саборы горада Беластока. Іх прысутнасьць у галоўным храме епархіі, верым у тое, будзе садзейнічаць яднаньню ўсіх нас. Верым таксама, што іх знаходжаньне на нашай зямлі дапаможа нам усьвядоміць тое, што неабходна пабудова капліцы на месцы пахаваньня й услаўленьня сьв. Мучаніка Дзіцяці Гаўрыіла ў вёсцы Зьверкі.

Сьвяты Мучаніча Дзіцятка Гаўрыіле, малі Бога пра нас!

**Ваш багамолец**
**+ Сава,**
**Архіепіскап**
**Беластоцкі й Гданьскі**

**Перадачы нашай Царкве св. Мошчаў св. Мучаніка Дзіцяці Гаўрыіла спадарожнічаць будзе каля дзвюх тысяч вернікаў з Гродзенска-Ваўкавыскай епархіі. Дбаючы пра дастойны і ўзнёслы характар урачыстасці і забеспячэнне неабходных патрэбаў паломнікаў, архіепіскап Сава звярнуўся да праваслаўных прадпрымальнікаў, бізнесменаў і людзей добрай волі аказаць Царкве матэрыяльную падтрымку. Ахвяраванні можна ўплачваць на рахунак:**

**Kuria Prawosławna Białostocko-Gdańska, ul.Liniarskiego 2, I O/M PKO Białystok, Nr. 5513-12566-136.**

# З БЕЛАСТОКА Ў СУПРАСЛЬСКУЮ ЛАЎРУ

Праваслаўя, цесна звязанае з традыцыяй, гісторыяй і культурай Беларусі. Перад выхадам да паломнікаў звярнуўся настаяцель прыхода а. Аляксандр Хіліманюк.

А 14 гадзіне чатырыста паломнікаў пад духовай апекай а. Анатоля Федарука падаліся ў Супрасль. Дарога /15 кіламетраў/ ім не доўжылася. Увесь час спявалі яны царкоўныя песні. Не перашкаджала ім нават саракаградусная спёка і разагрэты асфальт. Зрэшты, жыхары вёскі Агароднічкі, якая прыналежыць Супрасльскаму прыходу, прывіталі паломнікаў і пачаставалі іх цестам і кампотам. Пасля кароткага адпачынку група пілігрымаў, папоўненая жыхарамі гасціннай вёскі, пайшла далей.

Па дарозе паломнікаў абганялі аўтамашыны з турыстычнымі прыладамі, якіх пасажыры, спяшаліся над рэчку Супраслянку адпачываць. Паломнікам гэта не перашкаджала, хаця, мабыць, нехта з маладых і марыў у той момант аб прыемным купанні. Але ішлі яны далей, несучы ў душы свае турботы, беды, цярпенні, просьбы і пажаданні, каб з верай, надзеяй і любоўю прасіць Прасвятую Багародзіцу перад Яе Супрасльскай Іконай апекі і заступніцтва за нас грэшных перад Сваім Сынам, а нашым Госпадам Ісусам Хрыстом.

Хутка, сапраўды хутка, скончылася вандроўка і вось здалёк відаць ужо манахаў Супрасльскай лаўры, якія разам з вернікамі выйшлі прывітаць паломнікаў. Пад гул званоў /на жаль, не гэтых скрадзеных і вывезеных з непарадзенай яшчэ Царкве званіцы/ паломнікі ўвайшлі на тэрыторыю гэтага старадаўняга манастыра. Падзячным малебнам усе выказалі ўдзячнасць Госпаду Богу і Прасвятой Багародзіцы за шчаслівае завяршэнне першай часткі паломніцтва. Другой часткай мела быць амаль усяночная малітва. Пачалася яна «всенощным бдением», якое служылі архіепіскап Сава і архіепіскап Гродзенскі і Ваўкавыскі Валянцін. Яго прысутнасць была аднаўленнем кантактаў і сувязяў Супрасльскага манастыра з Гроднам. У сваёй гісторыі манастыр знаходзіўся ў Гродзенскай епархіі, а яго манахі, пасля разгону ордэна палякамі, знайшлі прыстанішча ў манастыры ў Гродне.

Пасля «всенощного бдения» асталася трохі часу да акафіста Багародзіцы. Можна было пайсці адпачыць у пакоі-келлі ў вернутым манастыру будынку. Большасць паломнікаў аднак асталася ў царкве. І паплылі адна за другой царкоўныя песні, якія стагоддзямі спяваў наш народ. Гэтыя спевы ў зорную ноч прыводзілі на думку сятаканнае Спаса на Грабарцы.

Апоўначы пачаўся, спяваны ўсёй «царквой», акафіст Багародзіцы перад Супрасльскай Іконай. Калі прагучалі апошнія словы малітвы да Багародзіцы паломнікі перайшлі ў рэканструяваную Дабравешчанскую царкву, каб памаліцца за памёрлых. Завяршэннем паломніцтва была літургія а 5 гадзіне раніцы і Прычасце. Многія пілігрымы асталіся да канца свяtкаванняў і прынялі ўдзел у галоўнай літургіі а 10 гадзіне, якую служылі архіепіскап Сава і архіепіскап Валянцін.

Раздумваючы пасля паломніцтва, дайшоў я да вываду, што калі Гасподзь паблагаславіць, а Прасвятая Багародзіца заступіцца за Супрасльскую лаўру, ды адначасна пры малітве, працы і ахвярнасці вернікаў, будзе яна адраджацца і развівацца. Першыя азнакі гэтага ўжо ёсць, хаця б апошняе паломніцтва, у якім прыняло ўдзел звыш пяціста чалавек /разам з паломнікамі з Васількова, Агароднічак, Сямяціч, Гайнаўкі і Бельска/. Сярод нашага народу многа глыбокаверуючых людзей. Напрыклад, 80-гадовая жанчына, якая аж з Бельска ішла пехатою ў Супрасль маліцца і прасіць Бога, каб захаваў Сваю Царкву і нас - сваіх слугаў, а ссыланыя ім выпрабаванні, каб былі нам навукай і перасцярогай.

Прасвятая Багародзіца, учынь, каб мы як найчасцей прыходзілі ў Тваю Супрасльскую лаўру.

*«Не имамы иныя помощи,*
*не имамы иныя надежды,*
*Ты нам помози на*
*Тебе надеемся и Тобою хвалимся*
*Твои бо есмы рабы, да не*
*постыдимся».*

**С. Н.**



*Хлебам-соллю прывіталі паломнікаў жыхары Агароднічак.*

# НАШЫ КАРАНІ

**XLII. «ГОРШЫЯ»**

Патаемныя ўцёкі мітрапаліта Рыгора Цамблака з Вільні ў Малдавію асірацілі мітраполію Беларускай дзяржавы /Вялікага княства Літоўскага/. Князь Вітаўт, пагадзіўшыся са сваім зяцем, вялікім князем маскоўскім Васілём Дзмітравічам, адмовіўся ад намаганняў усталяваць самастойную праваслаўную мітраполію для Беларусі. Ставячы перад сабою амбіцыянальнае заданне любою цаною каранавацца на караля, ён не хацеў уваходзіць у канфлікт з маскоўскім мітрапалітам Фоціем і тым самым абвастраць адносіны з патрыярхам канстанцінопальскім. Усе праваслаўныя епархіі ў Вітаўтавай дзяржаве перайшлі пад уладу мітрапаліта маскоўскага. Ужо ў 1421 годзе Фоцій наведвае Вільню, Навагрудак, Уладзімір-Валынскі і нават Галіч і Львоў, якія тады належалі да Каралеўства Польскага.

Гэта, вядома, не палепшыла становішча Праваслаўнае Царквы ў дзяржавах Вітаўта і Ягайлы: мітрапаліт Фоцій імкнуўся захаваць як мага лепшыя адносіны з усімі панучымі і не станавіўся ў абарону Царквы ў Беларускай дзяржаве. А становішча Праваслаўя пагаршалася тут з кожным годам.

Пастановамі Крэўскае, Віленскае і Гарадзельскае уніяў праваслаўная шляхта і духавенства пазбаўляліся ўсіх правоў і прывілеяў, якімі Ягайла і Вітаўт шчодра абсыпалі тых, хто прыняў каталіцызм, і каталіцкае духавенства. Напрыклад, акт Гарадзельскай уніі 1413 г., між іншым, сцвярджаў: «вышэй пералічанымі свабодамі, прывілеямі і ласкамі могуць карыстацца і цешыцца імі толькі паны і шляхта,... якія ёсць веруючымі хрысціянскае рэлігіі рымскага Касцёла, а не схізматыкі або няверныя». Такім чынам праваслаўныя ставіліся нараўні з паганамі-язычнікамі.

Як прыгадвае выдатны польскі гісторык М. Косман у кнізе «Вялікі князь Вітаўт» /1967/, абраны на Канстанцкім саборы ў 1415 г. новы папа рымскі Марцін V даручыў Ягайлу і Вітаўту паўнамоцтвы не толькі хрысціянізаваць Жамойцію, але так-

*Працяг на стар. 8*

# ШТО НОВАГА НА БУДОВЕ

У палове чэрвеня гэтага года пачалася пабудова новага будынка беларускага ліцэя ў Гайнаўцы. На школьным пляцы, побач старога ліцэя, вырастае паволі новы, агромністы сваімі памерамі, будынак. Будуе новы ліцэй Бельска-падляшскае будаўнічае прадпрыемства.

Кіраўніком пабудовы з'яўляецца Уладзімір Сахарчук, але сустрэцца з ім мне не ўдалося і таму з пытаннем пра поступы ўсяе інвестыцыі звярнуўся я да дырэктара ліцэя.

Яўген Сачко адказаў, што Бельска-падляшскае прадпрыемства накінула пабудове страшэнныя тэмпы - будаўнікі пакуль датрымліваюць усе тэрміны, а ў шмат якіх выпадках нават апярэджваюць распіску дзеянняў. Перадачу школы ў карыстанне 1 верасня 1993 года лічыць дырэктар Яўген Сачко вельмі рэальнай. Трэба тут аднак задаволіць адну ўмову - Кураторыя асветы і выхавання ў Беластоку павінна фінансаваць пабудову паводле ўказанняў міністэрства, што на практыцы абазначае перадачу на пабудову школы 5 мільярдаў злотых яшчэ ў гэтым годзе. Фінансаванне інвестыцыі адбываецца павольна.



*Вырастае новы ліцэй.*

Новы ліцэй будзе трохпавярховым будынкам з ужытковым падвалам. У падвале будуць размешчаны раздзявальні, кухня ды ўсялякія склады, на першым паверсе - памяшканні адміністрацыі і бібліятэка, а на двух апошніх - школьныя залы. Праект прадугледжвае, што ў школе будзе 16 аддзелаў, гэта значыць чатыры класы з чатырма паралельнымі падраздзяленнямі ў кожным. Пасля таго, як вучні і настаўнікі пяройдуць у новы будынак, стары будынак мае быць разбураны, а на яго месцы будзе пабудавана гімнастычная зала.

Трэцім і апошнім этапам інвестыцыі мае быць басейн, які плануецца будаваць паміж цяперашнім будынкам ліцэя і гімнастычнай залай. Яўген Сачко лічыць, што басейна міністэрства ўжо не сфінансуе. У сувязі з гэтым вялікая тут роля ўсёй грамадскасці - прадпрыемстваў, прыватных фірмаў і ўлад горада. У наваколлі знаходзяцца чатыры школы, а гэта каля дзвюх тысяч патэнцыяльных карыстальнікаў басейнам.

**А. МАКСІМЮК**
**Фота аўтара**

# ДЫРЭКТАРЫ, НАСТАЎНІКІ, ВУЧНІ!

**Запрашаем**

**на 6-тую старонку «Нівы».**

Як мы ўжо паведамлялі, у жніўні гэтага года Праграмная рада Тыднёвіка «Ніва» зацвердзіла галоўнага рэдактара газеты. Стаў ім доктар гісторыі Яўген Мірановіч - дагэтуль настаўнік у мастацкім ліцэі ў Супраслі. Новы кіраўнік па-свойму вызначыў тэматычныя рамкі нашага тыднёвіка. Шостая старонка «Нівы» адводзіцца на асветна-школьную праблематыку.

Хацелася б нам, каб на гэтай старонцы знайшліся інфармацыі, занатоўкі і артыкулы ад карэспандэнтаў, сярод якіх ахвотна мы бачылі б настаўнікаў, вучняў, дырэктараў школ ці проста бацькоў, дзеці якіх вучацца ў школах Беласточчыны.

Пра што пісаць? Пра ўсё, што непасрэдна, ці пасрэдна мае дачыненне да асветы - пра добрае і благое, пра тое, што цешыць і тое, што турбуе. Неабавязкова да нас пісаць па-беларуску - мы самі зробім усё, каб Ваш матэрыял быў як трэба.

Чакаем таксама тэлефонных інфармацый ад Вас.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

# НА ПАРОЗЕ ШКОЛЬНАГА ГОДА

Перш чым расказаць пра падрыхтоўку да новага школьнага года, дырэктар гайнаўскага беларускага ліцэя Яўген Сачко пахваліўся дасягненнямі школы ў мінулым годзе. Стаў ён дырэктарам гайнаўскага ліцэя з 1 красавіка 1992 г., якраз перад матуральнымі экзаменамі. Матура, адзначыў дырэктар, прайшла надзвычай добра. Да экзаменаў прыступіла 78 вучняў, а 77 з іх закончыла матуру пазітыўным вынікам. Вельмі высокай была агульная ацэнка ўсіх экзаменаў - крыху перавышала 4. У сувязі з гэтым кіраўніцтва школы з вялікім зацікаўленнем чакала вынікаў старанняў выпускнікоў паступіць у вышэйшыя ўстановы. Агулам з гайнаўскага ліцэя дакументы ў вышэйшыя навучальныя ўстановы склалі 52 вучні - 45 з іх паспяхова прайшлі ўступныя экзамены. Большасць з іх будзе вучыцца ў краіне. 18 чалавек трапіла ў Беларусь - на факультэты нямецкай мовы, беларускай філалогіі, медыцыны і стаматалогіі. У Польшчы вучні паступалі ў вышэйшыя школы ў Познані, Торуні, Варшаве і Гданьску, пераважна на такія напрамкі як юрыдычны факультэт, эканомія, германістыка, інфарматыка, матэматыка, паланістыка, ахова асяроддзя. З вельмі добрымі вынікамі прайшлі праз уступныя экзамены кандыдаткі ў Галоўную гандлёвую школу ў Варшаве - з беларускага ліцэя ў Гайнаўцы стараліся туды тры выпускніцы, дзве з якіх, Кася Башун і Хрысціна Корх, здабылі ў час экзаменаў высокую колькасць пунктаў, а трэцяй вучаніцы не хапіла ўсяго двух балаў, каб быць прынятай. Але яна, лічыць дырэктар, без клопату праб'ецца на нейкі падобны факультэт у Беластоку ў другім тэрміне. Галоўная гандлёвая школа ў Варшаве - надзвычай папулярная і вялікая там канкурэнцыя. З Гайнаўкі старалася паступіць у яе шмат кандыдатаў, але поспеху дабіліся толькі дзяўчаты з беларускага ліцэя. Іншы папулярны кірунак - гэта лінгвістыка ў Познані. З беларускага ліцэя трапіла туды Бася Цімафеюк, без экзаменаў, за чацвертае месца ў алімпіядзе нямецкай мовы цэнтральнага ўзроўню.

Канчатковыя вынікі старанняў вучняў паступіць у вышэйшыя школы яшчэ невядомыя. Невядомы яшчэ лёс гэтых сямі асоб, якім не пашанцавала ў першым тэрміне, але і без іх, лічыць дырэктар Яўген Сачко, працэнт выпускнікоў, якія з поспехам паступілі ў вышэйшыя навучальныя ўстановы - вельмі высокі. Сведчыць ён пра тое, што высокія ацэнкі на матуральных экзаменах - вынік добрага падрыхтавання вучняў, а не таго, што нібыта настаўнікі ў час экзаменаў заплюшчвалі вочы.

На пытанне пра набор кандыдатаў у ліцэй на 1992/93 навучальны год Яўген Сачко адказаў, што кандыдатаў аказалася якраз столькі, колькі трэба. Колькасць кандыдатаў не перавышала занадта ліку свабодных месц у школе, але ўдалося ажыццявіць тое, што кіраўніцтва школы сабе задумала - адчыніць тры паралельныя першыя класы. Упершыню класы гэтыя будуць прафіляванымі: агульны, матэматычна-фізічны і экалагічны. Пра ўвядзенне экалагічнага профілю вырашыла геаграфічнае палажэнне Гайнаўкі. Кіраўніцтва школы падрыхтавала для гэтага профілю багатую дыдактычную праграму - у планах, між іншым, прадугледжваюцца супольныя ўрокі геаграфіі, біялогіі і хіміі, але не ў школьных залах, а падчас выездаў усяго класа ў Белавежскую пушчу. Дырэктару таксама падумалася, што добра было б, каб вучні гэтага класа канчалі навуку экзаменам на праваднікa. У школе высокі ўзровень нямецкай і ангельскай моў - выпускнікі маглі б стаць праваднікамі па Белавежскай пушчы нават для замежных экскурсій.

Дырэктара Сачко, як і яго папярэднікаў, здзіўляе адна з'ява. Шмат людзей, беларусаў праваслаўнага веравызнання, пасылае дзеці ў суседні польскі ліцэй. Калі яны там не праходзяць экзаменаў, дык бацькі прыбягаюць у беларускі ліцэй, з просьбай прыняць іх сюды. Часта здараецца і так, што кандыдаты ў польскі ліцэй праходзяць экзамены з поспехам, але не прымаюць іх з-за недахопу свабодных месц. Дырэктар беларускага ліцэя ў такіх выпадках нязменна ставіць пытанне: «А чаму адразу не да нас? Мы ж не горшы ліцэй, а ў шмат якіх дзялянках можам пахваліцца і лепшымі дасягненнямі». На такое пытанне бацькі найчасцей канкрэтнага адказу не даюць - нібыта дачка ўперлася, нібыта таму, што сяброўкі туды пайшлі. Усё гэта аднак без значэння, бо ж выпускніку пачатковай школы 15-16 гадоў і ў большасці выпадкаў самастойна пра выбар школы ён не вырашае. Настаўнікі беларускага ліцэя, сказаў дырэктар Яўген Сачко, робяць усё, каб як найлепей падрыхтаваць вучняў да матуры і, пазней, да ўступных экзаменаў у вышэйшыя навучальныя ўстановы.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ
Н-р 391

# У ЯНОВІЧАВЫМ ЗАПЛОЦЦІ
## (ЗАНАТОЎКІ ПРЫ НАГОДЗЕ)

Паабяцаў я Сакрату скласці недзе пад зіму зборнік з таго, што яму напісалася дагэтуль. Нешта такое, што можна было б назваць „Выбраным", хаця б і ў падзагалоўку. Пасля „Загонаў" гэта была б ягоная другая кніжыца на беларускай мове тут у Польшчы. Неверагодна, але так яно ёсць: Яновіча Сакрата на Беласточчыне ведаюць, але ці як беларускага пісьменніка? Хутчэй за ўсё як польскага, у перакладах, альбо як аўтара „Białorusi..." Такі парадокс, які ў беларускай літаратуры трымаецца як норма. Чытаюць беларусаў па-польску альбо па-расейску, па-беларуску — жменька народу ўсяго...

Выснова для свае рэдактарскае працы: Макс, перад табою вялікі шанц — адкрыць Яновіча як беларускага пісьменніка менавіта... Беларускае літаратуразнаўства гэткага пачыну табе не забудзе...

Ну што ж, дзякую... Я й не спадзяваўся...

* * *

У беларускай літаратуры Яновіч — адзін з нешматлікіх, хто мае свой адметны почырк пісьма, свой стыль, каго лёгка пазнаеш і па непадпісаным фрагменце прозы... Часам такое залічваецца да арыгінальнасці, а часам — да манерызму. Асноўная розніца паміж імі, мабыць, у аўтарскім падыходзе да моўнага матэрыялу: арыгінальнасць патрабуе перш за ўсё сціслаcці думкі і сціслаcці пісьма (адмаўлення ўсяго выпадковага і нефункцыянальнага ў фразе), падчас калі манерызм „распускае"думку ў стылістычнай перасыці... Можна імітаваць манеру пісьма („пісаць пад кагосьці"), а ці можна імітаваць думку („думаць пад кагосьці)? Нейкая недарэчнасць... Альбо — плагіят...

У Яновіча багата думак і няшмат выпадковага ў фразе.

* * *

Нейкая такая думка кладзецца пад пяро: Яновіч ёсць наогул пісьменнік сур'ёзны. Гучыць гэта не вельмі каб разумна (але й насмешкі тут зусім няма). Маю на ўвазе тую эмацыянальна-псіхалагічную дыстанцыю, на якую аўтар ставіць сябе ў дачыненні да сваіх герояў. Ён наогул „блізка", не хаваецца за імглою іроніі ці імжою сентыментальнасці. Калупаецца з заўзятасцю ў вантробнай псіхалогіі сваіх Лялікаў, Бядоцікаў і Настусяў, часам нават загне стылістычна-эстэтычны мацюк (што называецца — выкажа напраcткі ацэнку паводзінам свайго героя) — значыць, трактуе свой занятак, як сам любіць пагаворваць, з прэтэнзіяй да свету. Ці не ад гэткай непасрэднасці пісьма бярэцца тое, што некаторыя польскія крытыкі вызначаюць праблематыку творчасці Яновіча перш за ўсё сацыялагічнымі катэгорыямі? Вось вам дуалізм вёскагорад, вось непазбежныя цывілізацыйныя метамарфозы, адпаведныя ім псіхалагічныя мадэлі паводзін і ўсё такое...

* * *

Аповесці „Самасей", што дала назоў Яновічаваму зборніку, які сёлета надрукавала „Мастацкая літаратура", я не дачытаў... І бадай ці дачытаю... Калісьці спрабаваў адолець яе ў пальшчызне, але таксама запыніўся недзе ў палове.

Сакрат прызнаўся мне („Беларускі каляндар 1991"), што пабудова сюжэта даецца яму з цяжкасцю, намнога лепш пішацца рэчы кароткія, апавяданні ці мініяцюры. Гэта, несумненна, так. Такі ўжо характар таленту пісьменніка.

„Мой" зборнік, мабыць, будзе нятоўсты...

* * *

*Беларускае слова, ты мая айчына! Бог ты мой! Ты мая рэлігія!* Гэтак Сакрат, з лірычным пафасам, у мініяцюрцы „Беларускаму слову".

Нешта падобнае дарма было б сёння шукаць, скажам, у англамоўным пісьменстве. *Ты як лёс паўстаеш, у даляглядзе нязбытым.* Англійскае слова збылося ў шмат якіх даляглядах, і далей збываецца. Лёс беларускага слова — няпэўны, далягляды ягоныя — далёка не ўсе адчыненыя... Пісьменнік беларускі, ці ён таго хоча ці не, мусіць адчуваць сябе да нейкай ступені місіянерам мовы. Маўляў, важна тут і тое, на якой мове я пішу, а не толькі — што і як пішу... Ці не ад гэтага якраз маем шмат твораў па-беларуску, а вельмі мала — беларускіх твораў?

Ну, магчыма, мы задалёка тут загнулі. Лепш так: маем зашмат твораў аб мове, вакол мовы і наконт яе; нейкія такія малітвы да мовы тым жа англамоўцам падаліся б, мякка кажучы, паранойным дзівацтвам... Але — іхняй мове не пагражае пагібель, таму й замольваць яе не трэба...

* * *

Дапусцім, Крынкі засталіся па той бок мяжы. Такі Яновіч, якога маем у нас, аніяк не ўпісаўся б у бээсэсэраўскую літаратуру... У яго няма гэтак званых станоўчых герояў! Ягоныя апавяданні насяляе ўсялякай масці маральная і псіхалагічная басота... Гэтага хапіла б, каб дастаць воўчы білет у надта прагрэсіўнай белсацлітсферы...

* * *

Сакрат любіць пагаворваць, што пісьменніцкая натура й склад думкі ў яго — бы ў таго электрыка (меў ён нагоду закончыць электратэхнічную школу недзе на зломе сталінскай эпохі): схільныя да канкрэтнага й сціслага. Вось і апошнім часам: *Мае навыкі былога электратэхніка, мая нянавісць да непрафесійнасці, недакладнасці...* ( гэтак ён пра сябе, у „Ніве" ад 23.08.92 г.). Калі возьмем пад увагу моўныя навыкі другога па значнасці электрыка ў Польшчы, які вяшчае з Белведэра, дык літаратурныя здольнасці электрыкаў не явяцца дужа канкрэтна. Лепш было б Сакрату казаць: мае навыкі электратэхніка з дыпломам магістра філалогіі...

*Запамяталася яшчэ: поберагам возера йшлі мы праз навалiны голля ды беспатрабноцця на пляжы з пачарнелым мола і паглыбляліся між, па-красавіцку свежа-зялёных, лазнякоў, ля ссохлых з зімы чаротаў, пазіраючы прытым з насцярогаю на абвальныя стромы, ад якіх, далей, прасціраліся палі.* („У матчыным садзе").

Вось так. Фраза запакаваная паяновічаўскаму, з ягонай канкрэтыкай і эстэтыкай, але ці „электратэхнічная"? Хутчэй за ўсё — філалагічная. Што даказвае — некаторым пісьменнікам дыплом філолага не лішні...

* * *

*Яму страх не хацелася паглыбляцца ў сваё нутро, са своеасаблівую слушнасцю палічыўшы гэта гульнёю з дрэнным пахам.* („Смерць Сымона Музыкі").

Ведаю, у чым справа, але нешта тут граматычна не ладзіцца (не дапасоўваецца, як пішуць у граматыках?). Менск прапусціў, а я — паскудна сумняваюся. Думаю.

* * *

Сакрату шмат што ўдаецца. Напрыклад, прыправіць плынь апавядання так званымі „агульнымі думкамі" разы тры на адной старонцы. І... нічога. Даволі гладка глытаецца. Маралізатарства ягонае, бо і яно маецца ў наяўнасці, — без надзьмутасці і інтэлектуальнай саматужнасці. Нейкае такое мястэчкова-вясковае, людское. У беларушчыне — натуральнае. А часам і зусім файнае, як у падсумаванні выпадку „На пажарышчы": *Нічога і нікому не зрабілася. Каб гэтак з добрым чалавекам, дык забіўся б.*

* * *

Гэта таксама Сакрат:

*Я хворы Беларуссю, і смерць за мною гіенаю валачэцца. О вы, з гікам парабкоўскім, ці скінеце тады капелюшы свае над трупам маім і супыніце, на той адзіны раз, пасмешкі над сканаием маім, чаканым вамі?* („У матчыным садзе").

Гэтае, не буду скрываць, шыбанула мяне крокаў колькі за, так бы мовіць, мяжу эстэтычнай прытомнасці.

Нешта прыдумаю.

ЯН МАКСІМЮК

**АНАТОЛЬ СЫС** /нар. 1959 г./ - выдатны беларускі паэт маладога пакалення. На Беларусі выйшлі ягоныя паэтычныя кніжкі «Агмень» /1988/ і «Пан Лес» /1989/. Прапануем увазе нашых чытачоў два вершы з неапублікаванай кніжкі А. Сыса «Ягамосць».



**Ружа**

Маё жыцьцё - гняздо з калючых руж.
Не Беларусь - маё жыцьцё Радзіма.
О Божа-мазахіст – і я, бы вуж,
дзяру з сябрамі скуру каля рыма.

Ты ведаеш па імені усіх,
ты ж сам прызнаў: было спачатку слова,
і мне маё ты вымавіў услых
і не габрайскай, а тутэйшай мовай.

І ружу ружай ты назваў,
і даў,
я да крыві скалоў дзіцячы рукі,
ня ты, я сам крыві сваёй жадаў -
твой вучань - вымаўляў з табою гукі

радзіннай кветкі,
цёплай, быццам кроў
Айца і Сына, і Сьвятога Духа.
О Божа - мазахіст уласных слоў,
глядзі мне ў вочы -
там любоў і скруха.

**Беларусі**

Хто зь пяром, хто з паходняй, хто з посахам
сьвет знайшоў,
а я - з гострым нажом,
о сівая мая, о боская,
згвалтаваная, мая босая,
мая голая пад дажджом.

А ты думала, а ты й думай так,
што твой родны сын не зладзей,
таму й носіць нож, бо рабіць мастак
скрыпкі здатныя для людзей.

О сівая мая, о боская,
хаця сэрца сьніць гостры нож,
ад цябе адной не адрокся я -
у нагох тваіх - медны грош,

але прыйдзе ноч дужа зорная,
тваёй спраўджаная сьлязой,
а мая душа будзе чорная,
небясьпечная, як лязо.

Яе ўгледзіш ты
я цябе прашу,
я па-воўчаму буду выць:
не ідзі ў начы на маю душу,
бо тагды і мне больш ня жыць.

# НАШЫ КАРАНІ

*Працяг са стар. 5*

сама кіраваць місіямі па перахрышчванню праваслаўных «схізматыкаў» у каталіцызм. А вядомы гісторык Праваслаўнае Царквы А. Карташоў у «Нарысах па гісторыі Рускай Царквы» /Парыж, 1959/ заўважае, што ўпаўнаважаныя папам у меншых і слабейшых праваслаўных прыходах забіралі цэрквы на касцёлы, засноўвалі новыя каталіцкія біскупствы на чыста праваслаўных землях. Паводле Вялюнска-Калішскага статута 1420 г., які абавязваў у Гнезненскай касцельнай правінцыі, а да яе належала Беларусь, без дазволу мясцовага каталіцкага біскупа забаранялася ўсім іншаверцам, а значыць таксама і праваслаўным, будаваць новыя ці рамантаваць старыя і пашкоджаныя храмы. Такім чынам Праваслаўе ўсё болей спіхвалася да ролі не толькі другараднага, горшага, але і чужога, а нават варожага веравызнання.

Усё тое бачылі, востра адчувалі на кожным кроку і вельмі балюча ўспрымалі праваслаўныя. Ніадкуль не было ім падтрымкі. З надзеяй на Усявышняга праваслаўныя вымушаны былі знаходзіць сілу толькі ў саміх сабе, гуртуючыся вакол свайго духавенства і баярства. І патрапілі абараніцца і ўстаяць! Толькі ў адным Навагрудскім ваяводстве /у яго склад, між іншым, уваходзілі сённяшнія гміны Нараўка, Белавежа і ўсходняя частка Міхалоўскай і Гарадоцкай/ было болей за 650 праваслаўных прыходаў і ўсяго некалькі маралікіх каталіцкіх парафій, а ва ўсёй Беларусі, разам з Падляшшам, было тады не меней пяці тысяч праваслаўных прыходаў. І колькасць іх няспынна расла.

Наперакор княскім пастановам і загадам новыя цэрквы і манастыры ў сваіх прыватных уладаннях засноўвалі праваслаўныя князі і баяры, напрыклад, у 1404-1409 г.г. велічны Успенскі сабор будуе ў Слуцку князёўна Анастасся Алелькава, у 1407 г. засноўвае ў Маламажырску каля Ліды Прачысценскую царкву нейкі баярын Сымон Мяшчэркавіч. Цікава, што і сям'я вялікага князя намагалася спрыяць Царкве: другая жонка Вітаўта, праваслаўная князёўна Ульляна Іванаўна Гальшанская заснавала ў Троках царкву святога Юрыя ў гонар праваслаўнага патрона свайго мужа, вялікага князя Юрыя-Вітаўта, а ў Вільні пабудавала манастыр Нараджэння Гасподняга. Княгіня Ульляна была таксама шчодрай апякункай Пачаеўскай лаўры, і па яе жаданню там яна і пахавана. Пра паўстанне многіх іншых праваслаўных храмаў у той час не захаваліся дакументы.

Польскія магнаты і каталіцкая іерархія, якіх надзвычай шчодра абдорваў ды абсыпаў прывілеямі Вітаўт, не дапусціла да яго каранацыі, слушна баючыся, што Беларуская дзяржава, узначаленая каралём, зраўняецца і ў міжнародным прэстыжы з іншымі вялікімі еўрапейскімі дзяржавамі і такім чынам перавысіць і заглушыць сваёй магутнасцю і славай маленечкае Польскае Каралеўства. У 1430 г., не здабыўшы каралеўскай кароны, у глыбокім расчараванні і згрызотах паміраe вялікі князь Юрый-Вітаўт-Аляксандр-Вігант, а праз год пасля яго - мітрапаліт Фоцій. Пачыналася новая эпоха ў жыцці Беларускае дзяржавы і Праваслаўнае Царквы ў ёй.

**МІКОЛА ГАЙДУК**

# ЦЭННАЯ ЎЗНАГАРОДА

Хто такі інж. Барыслаў Рудкоўскі, пастаяннаму чытачу „Нівы" тлумачыць не трэба. Ён, зрэшты, ад многіх гадоў супрацоўнічае з нашым тыднёвікам. На Бельшчыне праславіўся ён перш за ўсё як высокага рангу тапограф. У крузе яго дзеяння ў знаходзяцца: тапаграфія дарог, мастоў, гідраграфічнай сеткі, геадэзійная распрацоўка помнікаў прыроды (валуноў, геамарфалагічных аб'ектаў, дрэў), археалагічных помнікаў (гарадзішчаў, курганоў, магіл), тапаграфія сакральных помнікаў старадаўнасці (цэркваў, каплічак, крыжоў) ці на канец тапаграфія геаграфічных назваў урочышчаў і гідралагічнай сеткі. Праўда, яшчэ трэба ўспомніць і пра піраграфію аб'ектаў, у тым ліку і царкоўных — гэтым таксама займаецца славуты інжынер з Бельска-Падляшскага.



*Наш герой у часы сваёй маладосці.*

9 жніўня г.г., у Аўгустове, ля нова-збудаванай праваслаўнай каплічкі ва ўрочышчы „Баравіска", адбылася прыўзнятая ўрачыстасць, падчас якой быў уручаны Барыславу Рудкоўскаму ордэн святой роўнаапостальнай Марыі Магдаліны другой ступені. Пасля пропаведзі, бельска-падляшскі благачынны і настаяцель прыхода на Галавеску, а. Георгі Такарэўскі напомніў шырокага абсягу дзейнасць узнагароджанага, падкрэсліў яе каштоўнасць для нашага народа і праваслаўнай веры, якая праяўляецца ў замацаванні нашай прысутнасці на гэтай зямлі. Ордэн уручыў упаўнаважаны мітрапалітам Васіліем рэктар Секцыі праваслаўнай тэалогіі Хрысціянскай тэалагічнай акадэміі ў Варшаве праф. д-р Ян Сазонаў. Узрушанасць у гэты момант ахапіла не толькі сп. Рудкоўскага, але і многіх прысутных.

Трэба яшчэ тут дабавіць, што прапанову збудаваць каплічку Божай Маці „Дастойна ёсць" ва ўрочышчы „Баравіска" склаў не хто іншы, як Б. Рудкоўскі. Ініцыятыва гэтая была адобрана Яго блажэнствам мітрапалітам Васіліем 8 мая 1985 г.

Віншуем сп. Барыслава Рудкоўскага з узнагародай, якая ўшаноўвае яго неаспрэчна вялікія заслугі для праваслаўя на нашых землях.

Пры нагодзе варта ўспомніць, што інж. Б. Рудкоўскі 31 ліпеня г.г. перадаў у Беларускі музей у Гайнаўцы дзевяць сваіх піраграваюраў, якія прадстаўляюць некалькі крыжоў з XIX і XX ст. з ваколіц Гацькоў, Праневічаў і Аўгустова (Ягуштова), царкву на Галавеску, каплічку на вул. Дубічы ў Бельску-Падляшскім, званіцу бельскай царквы Нараджэння Прачыстай Дзевы Марыі, тапаграфічную карту ваколіц сяла Кленікі, сетку ракі Медная і „Дняпроўскіх парогаў", а таксама бельска-гайнаўскі адрэзак „Царскага тракту".

**ПЁТР БАЙКО**

# НЕ КУПЛЯЙЦЕ Ў КРАМЕ СУПОЛАК «UNIBUD» І «AGOREX»

Раней у нашых крамах паўсюдна вісеў дэвіз: «Кліент - наш пан». І што? І нічога, у сітуацыі, калі пакупнікоў было шмат, а тавараў амаль зусім, кожны ведаў, хто ў краме сапраўдны пан. Прадавец. Але ў сацыялізме «з людскім тварам» абавязвала пэўная форма, нават, калі да рэчаіснасці пасавала яна так, як пацэркі да свінні.

Змяніўся час. Тавараў у нас завялося якіх хочаш і скуль хочаш, адчыняюцца ўсё новыя крамы, а грошай у кішэнях рэзка паменшала. Ніхто не вывешвае на сценах крамаў ніякіх павучальных лозунгаў, пра кліента дбаецца на практыцы: рэкламай, абслугоўваннем і якасцю тавараў. На жаль, не ўсюды, але гэта можа і добра. Такія крамы, якія не шануюць кліента, будуць адпадаць з рынку. Пакупнікі - усё ў свой час - правядуць натуральную селекцыю. Пра адну такую краму я хачу расказаць. Няхай чытачы прабачаць мне асабісты характар расказу, але без яго, бадай, не атрымаецца.

У канцы сакавіка нарадзіўся мне сын. Бацькі жонкі свайму першаму ўнуку купілі каляску - прыгожую, складаную, нейкую кітайскую. Радасць дзедкаў, унука і нашая - бацькоў ад вазка трывала аднак нядоўга. Карысталіся мы ім усяго чатыры месяцы, а потым, у пачатку жніўня, вазок узяў і паламаўся на гладкай дарозе. Адваліліся колца і то так, што ні прылатаць, ні прышыць. Нам здалося, што як на грошы, якія ён каштаваў, вазок паслужыў нам закоратка. Вырашылі рэклямава тавар у краме.

Каляска была куплена ў Бельску, у краме суполак «Unibud» і «Agorex», на вуліцы Міцкевіча 50/54. Рэкламацыю там прынялі, а як жа, і сказалі даведацца праз некалькі дзён што вырашыць пастаўшчык. Праз некалькі дзён сказалі прыйсці ў наступным тыдні. А ў наступным тыдні далі тэлефон аптовага складу ў Беластоку і прозвішча яго кіраўніка, маўляў, даходзьце самі справядлівасці.

Я думаю, што ўсе памятаюць жніўеньскую спёку. А тут з дзіцём нават на шпацыр не выйдзеш. Бралі мы яго ў насілкі, але колькі ж 5-месячнае дзіця можа вытрымаць у насілках, ні паляжаць, ні паспаць у іх. Жонка мая тут не стрывала - занесла каляску ў краму, рабіце з гэтым штосьці. Добра, добра, зробім, даведвайцеся ў наступным тыдні. У наступным тыдні, калі жонка зайшла даведацца, кіраўнік крамы Януш Панасюк быў так заняты разгрузкай тавараў, што не меў часу ёй адказаць. А раней не было ў яго часу скантактавацца з аптовым складам. Урэшце сказаў зноў прыйсці праз некалькі дзён. І зноў, праз тых некалькі дзён, нічога не скранулася з месца. Кіраўнік толькі выказаў жонцы спачуванне, а на ім аднак малога вазіць не будзеш.

Я чалавек спакойны і памяркоўны, да гэтай пары спраў каляскі не займаўся. Але такая трактоўка маёй сям'і і маіх, усё ж такі, інтарэсаў, крануламяне за жывое. Вярнуўшыся з працы і пачуўшы ад жонкі, што яе зноў адаслалі ні з чым, падаўся я ў краму асабіста. Кіраўніка Януша Панасюка спаткаў я якраз у момант, калі ён зачыняў краму. І ведаеце, што мне ён сказаў? Каляска ў іх усяго некалькі дзён /а што рэкламацыя была складзена, бачыце, амаль месяц раней, яго гэта не тычыцца/ і гэта толькі і выключна яго добрая воля, што ён увогуле згадзіўся займацца гэтай справай. А я непатрэбна гарачуся. Вось як!

Калі пішу гэты тэкст, не ведаю чым закончыцца справа з маёй няшчаснай каляскай. Але ўжо ведаю, што ў гэтай краме ў Бельску купляць я нічога не буду. Калі кіраўнік Панасюк лічыць свае паводзіны вяршыняй добрай волі, дык няхай пашукае кліентаў, якія на такую трактоўку пагодзяцца. Я не!

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**




Дарагая рэдакцыя нашай беларускай газеты „Ніва"! Я ад вайны жыву ў Беластоку. Ад 1947 года, а да таго часу жыла на вёсцы.

„Ніву" я купляю рэгулярна кожную пятніцу. Чакаю ўжо гэтага дня нецярпліва, а калі куплю газету — дык маю што чытаць у суботу і нядзелю. Мне ўжо 67 гадоў, ужо я на пенсіі, і ваша газета ўносіць у маё жыццё крыху цяпла і радасці. Чытаю „Ніву", а пасля расказваю іншым, што там было цікавага.

Толькі я хачу сказаць, што мне гэтых палітык не трэба. Я хачу чытаць пра людзей, пра вёску. Не хачу таксама сварак і лаянкі на старонках маёй любімай газеты. Мо тады ўсім патэнцыяльным чытачам „Ніва" станецца такой самай блізкай, як і мне.

У апошні час з усіх рэпартажаў мне найбольш спадабалася „Амерыка" Ады Чачугі („Іх папараць-кветка або У амерыканскіх беларусаў" — рэд.). Як там хораша напісана пра нашых людзей, якіх лёс раскідаў па свеце! І знаёмых там сустрэнеш, бо і пра айца Кастуся нашага, Бандарука, напісана, і пра Данчыка прачытаць можна, а ён стаў ужо нам блізкі, бо і прыязджаў да нас і спяваў, ды і па радыё ў беларускіх перадачах часта яго чуем.

Адчуваю сябе так, быццам гэта я пабывала за акіянам і пабачыла амерыканскіх беларусаў.

Цалую вас, дарагія, за ўсё гэта.

**ЛЮБА ПЛОШЧУК,**
**Беласток**

# ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

ІГНАТ ДВАРЧАНІН

## БРАТУ-ВУЧЫЦЕЛЮ

Сей, браце мой мілы, сей
поўнаю жменяй,
Загон свой гусцей засявай,
Ціхутка і роўна, ня болей,
ня меней,
Ад краю загона у край.
Хай віхры бушуюць, гудуць
навальніцы,
А ты ні на што не зважай -
А шагам за шагам па свежай
зямліцы
Упярод ды ўпярод падступай.
Не бойся, мой брат, не загінуць
зярняты,
Што ўкінеш ты вернай рукой,
Як дар яны з неба там будуць
прыняты
Даўно ўгатаванай раллёй.
Задзівішся сам ты, як сонца
прыгрэе,
Што стане з тваёй паласы,
Як буйна на вочах яна зарунее,
Як хутка ўсплывуць каласы.



*–Рыжык, глядзі ў фатаапарат! – кажа Мілена Парфенюк з Бельска.*
**Фота М. Ваўранюка**

ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ

### СВІРЭПЧЫНА ВЯСЕЛЛЕ

Сабралося пустазелле
На Свірэпчына вяселле.
Нават і не верыцца,
Што Свірэпка жэніцца;
Бярэ ў мужы лайдака
Падсуседа Аўсюка.
Завіхрасты белы Доннік
Расцягнуў, як мех, гармонік.
Разанула Асака
На скрыпачцы гапака.
Падпявае ім Трыпутнік,
Сеў ля лавы, як бяспутнік,
Выбівае ножкай лоўка
Ля парога Мухалоўка,
Жоўтаротыя рамонкі
Упацелі ад гамонкі,
А Маркоўнік з Крапівою
Кпліва круцяць галавою.
За сталом паважна Блёкат
Разваліўся ледзь не ў покат,
З ім сядзіць, скрывіўшы рот,
Раскудлачаны Асот.
У люстэрка ўсё глядзіцца
Далікатная Макрыца.
Піва ў кубках пеніцца,
Аўсюк сёння жэніцца.



## ТРЭЦЯЯ БАБКА

Над Дубаўлянамі разгараўся пагодлівы зімовы дзень.

Міхедка ачысціў ад снегу сцежкі на падворку і агледзеў яго. «Чыстая работа, - пахваліў самога сябе. - Так і мама сказала б...»

Цяпер заставалася схадзіць у магазін: мама наказала купіць хлеба. Толькі пасля гэтага ён, Міхедка, зможа заняцца любімай справай - маляваннем.

Па дарозе Міхедка сустрэў Эдзіка, свайго лепшага сябра. Весела перамаўляючыся, яны разам пабеглі ў магазін.

У канцы вуліцы згледзелі бабку Стэфку. Скрыжаваўшы на кульбе рукі, яна адзінока стаяла каля сваёй хаты, пры веснічках.

- Добры дзень, бабуля! - павіталіся сябры, падышоўшы бліжэй.

Бабка падняла галаву, хвіліну-другую моўчкі паўглядалася на іх.

- Дзень добры, дзеткі... Чые ж вы будзеце? Не пазнаю, гэтульк вас панарасло ў Дубаўлянах.

- Тату майго Кастусём Смолікам завуць,- сказаў Міхедка, - а ягонага, - кіўнуў на Эдзіка, - Лявонам Галубком.

- А-а, ведаю, - праясніўся бабчын твар. - А куды ж вы, дзеткі, выбраліся?

- У магазін, - загаварыў і Эдзік, - па хлеб...

- Па хлеб? - ажывілася бабка Стэфка. - То вазьміце і мне. Самой дужа цяжка хадзіць...

Неўзабаве сябры вярнуліся з хлебам. Бабка Стэфка павяла іх у хату, пасадзіла за стол. І прынесла малінавага варэння, дала па скібцы духмянага пірага.

- Для сваёй праўнучкі пякла, - уздыхнула яна. - Усё чакала, чакала, думала, прыедзе... Ажно не...

Бабка адразу спахмурнела, ціха паскардзілася:

- Старасць - не радасць. Зусім кволая стала: мне ж, дзеткі, дзевяноста гадоў набегла. А трэба і дроў прынесці, і вады са студні набраць...

- Дзе ў вас вёдры, бабуля? - порстка падхапіўся з-за стала Міхедка.

- Мы вам наносім вады! - падтрымаў яго Эдзік. - Колькі захочаце...

Хлапчукі разам, у чатыры рукі, выкручвалі з калодзежа ваду, разам - ужо ў дзве рукі - насілі поўныя вёдры.

- Ото ж дзякуй вам, дзеткі! - сівой галубкай буркавала каля дзяцей бабка. - А зараз ідзіце за мной, - загадкава ўсміхнулася яна і адчыніла дзверы ў камору.

Вочы ў хлапчукоў заззялі ад здзіўлення: чаго толькі не было ў каморы! Прыгожыя цацкі, кніжкі, мячыкі... А ў закутку, пад невялікім акенцам, цьмяна пабліскваў дзіцячы веласіпед.

- Бярыце, бярыце, дзеткі, - кіўнула бабка на веласіпед. - Гэта мой вам падарунак. Некалі на гэтым «бегунку» катаўся Віцька, мой самы меншы ўнучак. Ён даўно ўжо вырас... Не прыязджае...

Хлапчукі кінуліся да веласіпеда.

- Я вам, дзеткі, вось што хачу сказаць... - бабка змоўкла, задумалася, а потым папрасіла: - Будзьце вы мне ўнукамі. І ты, Міхедка, і ты, Эдзік... Ведаю, у вас ёсць свае бабкі. Няхай будзе яшчэ адна, трэцяя. Згодны, унучкі?

- Згодны! - дружна хітнулі галовамі хлапчукі. - Будзем прыходзіць, і не адны - у нас шмат сяброў.

Яны павесілі на руль сумку з Міхедавым хлебам і пакацілі веласіпед з двара. Ішлі па вуліцы і раз-пораз аглядваліся.

Бабака Стэфка, павесялелая і бытцам памаладзелая, стаяла каля веснічак і ласкава паглядала ім услед.

**МІХАСЬ ВЫШЫНСКІ**

## ЧОРНЫ БУСЕЛ

Чорны бусел па велічыні і знешняму выгляду падобны да белага, але апярэнне ў яго чорнае з металічным бляскам, а брушка, грудка і падхвосце белыя. Дзюба і ногі чырвоныя. Вельмі асцярожная птушка, трымаецца заўсёды паводдаль ад чалавека, гняздзіцца ў глухіх месцах, на балотах, на старых недаступных дрэвах на вышыні 12-25 метраў. Селіцца і на лясістых берагах рэк і азёр.

У пачатку красавіка птушкі прылятаюць з Афрыкі, дзе праводзілі зіму, і пачынаюць будаваць гнёзды. Калоній чорныя буслы не ствараюць, кожная пара будуе гнёзды асобна. У адным і тым жа гняздзе жывуць па некалькі гадоў. У Белавежскай пушчы вядома гняздо, у якім чорныя буслы выводзілі птушанят 24 год запар. Гняздо робіцца з галля, дзёрну і гліны. Ляток высланы сухой травой, часам імхом. Патомства пачынаюць выводзіць у трохгадовым узросце. У кладцы бусла звычайна 3-5 яек. Сядзяць на іх абедзве птушкі, прычым пачынаюць выседжванне ў канцы красавіка з першага яйца, і таму птушаняты вылупліваюцца ў розны час, паступова. Першае птушаня з'яўляецца ў канцы мая, а пакідаюць гняздо маладыя буслы ў канцы ліпеня. Харчуюцца чорныя буслы рыбай, жабамі, трытонамі, вадзянымі жукамі. Ежу шукаюць часам далёка ад гнязда, за 5-10 кіламетраў. Птушанят кормяць адрыгнутай ежай 4-5 разоў у суткі.

З пачатку жніўня і да канца верасня семі чорнага бусла адлятаюць на зімоўку ў Афрыку.



РЫГОР БАРАДУЛІН

### ЧЫТАНАЧКА

Першы дожджык.
Мокры дах.
Мы чытаем па складах:
- Да-ра-гі бук-вар,
Бы-вай!
Ты ад-крыў нам
Дзіў-ны край.
Бліснуў гром з-за хмар
Залатой падкоўкай.
Пазнаёміў нас буквар
З вернаю сяброўкай.
Хто палюбіў яе, таму
Не будзе сумна аднаму.
Не Натачка -
Наталачка -
Завуць яе - чыталачка.
Хмурынка, як праталачка.
Убрала восень гай.
Сцяжынку нам, чытаначка
Да ведаў пракладай!

### ЖАРТ

Проста жах -
Гарыць калодзеж,
Аж пад неба
Полымя.
Чым астудзіш,
Ахалодзіш?
Не рукамі голымі!
Што рабіць?
Бяда
Адна -
Выгарыць
Вада
Да дна.
Што рабіць
І што рашыць?
Як ваду вадой
Тушыць?!





*Восень.* **Фота Л. Рублеўскай**

# ВЕРАСЕНЬ

Залатая восень - цудоўная непаўторная пара, сапраўдны кірмаш фарбаў. Блакіт неба, жоўта-чырвонае лісце бяроз і асін, пунсовыя ягады каліны і шыпшыны... Пасля першых халадоў наступаюць цёплыя сухія дні бабінага лета. Срэбнымі ніткамі плыве ў паветры павуцінне, а на лугах звіняць косы - сяляне спяшаюцца сабраць апошні ўкос траў, звезці духмянае сена ў хлявы і гумны.

Пасля начных замаразкаў пачынаецца лістапад. Ранкамі ў лесе вісіць туман, featuresнакаляровае лісце ў промнях сонца няспешна апускаецца на зямлю. Здаецца, што трапляеш у казку.

Раз-пораз праносяцца ў паветры шумлівыя хвалі. Гэта птушкі збіраюцца ў чароды перад адлётам у вырай. Розная драбяза, накшталт мухаловак, сітавак і г.д. ляцяць групкамі, паважным касяком плывуць гусі, касым шнурам - лебедзі. А вось зязюлі, ястрабы ляцяць звычайна па аднаму.

У асеннім лесе можна пачуць адрывісты глухі рык, што часам пужае грыбнікоў. Гэта падаюць голас ласісамцы. Калі ў лесе ціха, лася можна пачуць і за паўкіламетра. У іх пачаўся шлюбны перыяд. Абзавёўшыся новымі рагамі, самцы наладжваюць бязлітасныя бойкі. Паядынак праходзіць амаль у цішыні, можна пачуць толькі глухія ўдары рагоў, цяжкае дыханне жывёл ды трэск ламачча пад нагамі. Барацьба вядзецца, як кажуць, да пераможнага канца. Больш слабы адступае і пакідае поле бою. А пераможца, адпачыўшы, агалошвае наваколле ўрачыстым рыкам.

Іншыя лясныя жыхары, што рыхтуюцца да зімоўкі, шлюбных клопатаў не маюць. Яны цягаюць сухую траву, лісце і абсталёўваюць цёплыя норы. За гэтым заняткам можна застаць і барсука, але, на жаль, яго сёння мала дзе ўжо можна сустрэць. З кожным днём становіцца ўсё халадней. Прырода рыхтуецца да зімы.



# ВОЖЫК

Вось дык дзіўны шавец! На спіне сто іголак, а шыць не ўмее. Кожны назаве яго імя - гэта вожык. І мае ён не сто іголак, а ў сто разоў больш. Так, прынамсі, падлічылі вучоныя.

Жыве вожык ва ўсіх мясцінах нашай Беларусі. Найчасцей, вядома, у лесе. Але ёсць сярод вожыкаў і такія, што не цураюцца жыхарства ў горадзе ці вёсцы. Іх можна сустрэць у садзе, парку, непадалёку ад хлява для свойскае жывёлы. Вожык, напэўна, самы адважны са звяркоў - нашых блізкіх суседзяў. Ён не спяшаецца ўцякаць, калі яго хто-небудзь перастрэне на сцяжынцы. Натапырыць свае вострыя калючкі і сярдзіта чуфыкае, пыхкае, мауляў, прэч з дарогі, бо ўкалю! Калі ж крыўдзіцель нападзе, звярок умомант згорнецца ў клубок. Не шмат знойдзецца ахвотнікаў пагуляць з такім калючым мячыкам. Хіба галодная ліса пакоціць яго да раўчука ці глыбокай лужыны. А потым, як вожык пачне ратавацца, плыць па вадзе, - цопне яго зубамі за пыску ці жывот.

Дарэчы, вожык і сам адважны паляўнічы. Шмат знішчае шкодлівых жукоў, слімакоў, бурыць мышыныя і кратовыя гнёзды. Асабліва зацята змагаецца з паўзучымі гадамі. Ніколі не абміне гадзюку. Нават самую вялікую і страшную. Спачатку цаляе пашкодзіць, перакусіць ёй хрыбет. Гадзюка ўмела бароніцца. Пагрозліва сыкае, наравіць укусіць звярка. Але вожыка надзейна бароняць вострыя калючкі, і ён звычайна перамагае. Цікава і тое, што маленькія вожыкі адразу нараджаюцца з іголкамі. Аднак напачатку яны ў звяркоў мяккія і белыя. Замест іх праз два-тры тыдні вырастаюць цёмныя і калючыя. Вожычыха старанна апекуецца сваімі дзецьмі, водзіць іх за сабою амаль цэлае лета.

А ўзімку вожык спіць. У цёплай норцы-гняздзе, зусім без ежы. Як мядзведзь у бярлозе. Спіць і, пэўна, сніць, што вясною, калі прыгрэе сонейка, хтосьці добры пачастуе яго цёплым сырадоем. Малако для вожыка - самы лепшы ласунак на свеце. Спадачкам сырадою звярка лёгка прыручыць. Але трэба памятаць: малако шкодзіць вожыкаваму здароўю. Асабліва, калі наліваць яго шмат і кожны дзень.

Найлепш звяроў і птушак зусім не прыручаць і не чыніць ім аніякай крыўды. Тады яны заўсёды будуць жыць з намі ў блізкім суседстве і добрай згодзе.

**УЛАДЗІМІР ЯГОЎДЗІК**



## ДЗВЕ РОЗНЫЯ ПАЛОВЫ ТВАРУ

Як вы мяркуеце, ці аднолькава выглядаюць правая і левая паловы твару вашага сябрука? Калі вы думаеце, што яны аднолькавыя, вазьміце яго фотакартку і невялічкае люстэрка, лепш, калі яно без рамкі. Потым прыстаўце край люстэрка да сярэдзіны фотакарткі. Вы ўбачыце твар з дзвюх левых частак фотакарткі. Калі жадаеце, то можаце пакласці люстэрка наадварот і ўбачыце твар з дзвюх правых частак.

Шмат гадоў назад некаторыя людзі лічылі, што дзве паловы твару могуць быць неаднолькавыя. Напрыклад, адна палова можа выглядаць шчаслівай, а другая наадварот. Цяпер мы ведаем, што гэта не так, але ўсё роўна эксперымент вельмі цікавы. Можаце правесці яго і са сваёй уласнай фотакарткай. Вынік эксперымента здзівіць вас. Вы ўбачыце, якія розныя „два" вашых твары.

# Вершы Віктара Шведа

### У СНЕ МЯСІЎ БАЛОТА

Раніцою будзіць мама
Малога Сярожу:
- Чаму з бруднымі нагамі
Лёг учора ў ложак?!
Выдумаў Сяргей-лянота
Адказ нечакана:
- Я ж у сне мясіў балота,
Таму брудны рана.

### ШТО ІРЖА З'ЯДАЕ?

Запытала Рая:
- Што іржа з'ядае?
Мама адказала:
- Што толькі папала.
- Як не пападае -
Што тады з'ядае?
- Тады са спакоем
Есць нешта другое.

### Я БУДУ МУЗЫКАМ

- Калі ўжо вырасту вялікім,
І калі некім трэба быць,
Напэўна буду я музыкам,
Свет цэлы стану весяліць.
- Інструментаў ёсць багата,
Іграць ты хочаш на якім?
- А на грамафоне, тата,
Мару іграць ужо малым.

### СКАЖЫ «А»

Сёння ў лекара зубнога
Зубок хворы лечыць Люба.
І ад болю, ад знямогі
Зацiскае моцна зубы.
Адазваўся лекар з жалем,
З кроплямі на твары поту:
- Скажы «а», каб я свой палец
Выцягнуць мог з твайго рота!..

### ШТО БУДЗЕ ХУТЧЭЙ?

- Як тут дачакацца
Радасных хвілін,
Калі скажа маці:
«Ты ўжо не адзін».
- Сястрычку ці брата
Хочаш мець, Андрэй?
- А скажы мне, тата,
Хто будзе хутчэй?

# ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

Англійскі бактэрыёлаг Рональд Рос так апісаў свайму сябру змаганне паміж белымі крывянымі шарыкамі-фагацытамі і мікробам, якое ён назіраў пад мікраскопам: «Ён (мікроб) не пераставаў штурхаць фагацыта пад рэбры ў розных месцах, пакуль той не завыў і не пабег...»

xxx

Адзін малады чалавек так надакучыў сваімі пытаннямі Вальтэру, што той пры сустрэчах хуценька гаварыў:
- Добры дзень, не, таго, пра што вы хочаце ў мяне спытаць, я не ведаю!

xxx

Астраном Струвэ, дырэктар Пулкаўскай абсерваторыі, успамінаў, як абсерваторыю наведваў цар са сваёй світай, усе ўвешаныя ордэнамі.
- Бачу шмат зорак, - расказваў Струвэ, - і ўсе - на жаль! - не на сваіх месцах!

xxx

Выдатны фізік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі Нільс Бор, ратуючыся ад фашысцкай акупацыі, уцёк у 1943 годзе з Капенгагена. Ён не рызыкнуў узяць з сабою залаты медаль лаўрэата, а растварыў яго ў шклянцы з царскай гарэлкай (сумесь азотнай і саляной кіслот) і пакінуў пляшку ў каморы. Вярнуўшыся пасля вайны, Бор выдзеліў электрычным шляхам золата з раствору і заказаў з яго новы медаль.

xxx

Аўтар многіх камедый Браніслаў Нушыч на пытанне, што такое тэлеграф, адказаў:
- Уявіце сабе вялікую кошку, хвост якой у адным горадзе, а галава ў другім. У адным горадзе цягнуць за хвост, а ў другім чуецца мяўканне.
- А тады што ж такое радыё?
- Тое ж самае, толькі без кошкі!

**СЕНСАЦЫІ**

# ДЗЯЎЧЫНКА-ЗВЕРАНЯ

Першы ў свеце чалавек-зверанят выяўлены ў венгерскай вёсцы каля мястэчка Озд. Месцазнаходжанне пяцігадовай дзяўчынкі, каб пазбегнуць таннай сенсацыі, захоўваецца ў сакрэце. Мікла Біра стала аб'ектам даследаванняў групы біёлагаў і генетыкаў з некалькіх дзяржаў Еўропы і ЗША.

- Гэта першае такое стварэнне ў гісторыі навукі, - сказаў венгерскі прафесар-біёлаг Шандар Гаўптман. - Мікла цудоўна адчувае сябе сярод людзей у акружэнні вясковай дзятвы. Да яе лашчыцца і жывёла. Яна разумее іх гукі і перакладае іх на мову людзей. Мы без ніякіх сумненняў сцвярджаем, што Мікла разумее гукі кошак, кароў і нават хатніх птушак.

Разумовыя здольнасці дзяўчынкі амаль удвая перавышаюць здольнасці яе аднагодкаў. Але яна больш падобная на калматага, светлавалосага пудзеля, чымсьці на чалавечае дзіця.

Нарадзілася Міка ў горнай вёсачцы. Калі вяскоўцы пабачылі пакрытае шэрсцю нованароджанае дзіця, вырашылі, што гэта дэман. Былі спробы забіць яе. Бацькі схавалі дзяўчынку ў аборы разам з хатняй жывёлай. Калі мясцовыя хлапчукі зрабілі чарговую спробу нападу на дзяўчынку, яны вывезлі Міклу ў горад. Там яна стала навуковай сенсацыяй.

Тэст на разумовыя здольнасці даў нечаканыя вынікі. Для пяцігадовай дзяўчынкі, якая вырасла ў вёсцы, ацанілі іх на 200 працэнтаў у параўнанні з нормай. - Яе здольнасці ўражваюць, - сказаў прафесар Гаўптман.

Навукоўцы намерваюцца з дапамогай Міклы вывучыць мову жывёл, якая намнога багацейшая, чым можна было гэтага дагэтуль спадзявацца. Яна змяшчае ў сабе не толькі элементарныя паняцці, але і эмацыянальныя станы. Даследуецца таксама і арганізм дзіцяці, які злучае ў сабе рысы і чалавека і жывёліны.

- Мы мяркуем, што з часам Мікла штораз больш будзе падобна на сабаку, - сцвярджае прафесар Шандар Гаўптман. - Яе голас часта пераходзіць у брэх, а на пальцах вырастаюць моцныя ногці.

Джэкіс Бурмінале, бразілійскі даследчык паранармальных з'яў, спаткаўшыся з Міклай Біра, выказаў меркаванне, што дзіця з'яўляецца мутантам, які прыйшоў на свет у выніку эксперыментаў НЛА /UFO/ над чалавецтвам. Яго пункт гледжання супадае з фактам, які здарыўся пяць гадоў таму назад, калі ў ваколіцах мястэчка Озд неаднойчы сустракаліся «лятучыя талеркі».

/*"The Weekly World News"*/

## БУХОННЫЯ ПАРАДЫ

### З ГРЭЦКАЙ КУХНІ

*Летні час спрыяе знаёмству з кухняй жыхароў розных кантынентаў. Падарожжы, хаця і не для кожнага сёння даступныя, уносяць значную разнастайнасць і ў нашае штодзённае мéню. Таму і вырашылі мы пазнаёміць нашых чытачоў з некалькімі рэцэптамі з грэцкай кухні.*

### БОБ З АЛЕЕМ

На 1 кг бобу трэба ўзяць 5-6 маладых цыбулін, 1/4 л алею, 1 лыжку цукру, 2 вялікія лыжкі пасечанай свежай мяты, соль, перац.

Вылушчыць боб, памыць яго і асушыць. Разагрэць алей і ўкінуць дробна пасечаную цыбулю. Падаграваць яе, пакуль не стане мяккая. Укінуць у посуд з алеем боб, пасечаную мяту, пасыпаць соллю, перцам і цукрам. Даліць гарачай вады так, каб боб быў прыкрыты. Варыць пад пакрыўкай на сярэднім агні, пакуль вада не выварыцца. Так падрыхтаваны боб падаюць гарачым з халодным ёгуртам.

### ЦЫБУЛЯ З ЧАСНАКОМ ПА-КАРАЛЕЎСКУ

На 6 вялікіх цыбулін і 12 зубкоў часнаку трэба ўзяць 2 лыжкі алею, крыху солі, перцу, зеляніну пятрушкі, 6 лыжак цертай булкі і крыху чырвонай папрыкі ў парашку на кожную цыбуліну.

У пасоленай вадзе зварыць цэлыя цыбуліны і зубкі часнаку. Калі будуць амаль мяккія, выняць, астудзіць, а пасля вострым ножыкам выразаць з кожнай цыбуліны сярэдзіну, каб яна выглядала як пустая ў сярэдзіне шкарлупінка. Як мага драбней пасячы вынятую сярэдзіну цыбулін і часнок. Усё палажыць у міску, дадаць алей, а пасля расцерці таўкачом на аднастайную масу. Усыпаць соль, перац, жменьку пасечанай зеляніны пятрушкі і 5 лыжак цертай булкі. Расціраць далей, пакуль маса не стане гладкай і аднастайнай. Разагрэць моцна духоўку. Змазаць тлушчам посуд, у якім будзем пячы цыбулю, і ўставіць у яго цыбулю. Тады сярэдзіну цыбулі напоўніць фаршам, зверху пасыпаць цертай булкай, палажыць на кожную цыбуліну кавалачак масла і пасыпаць чырвонай папрыкай. Пячы каля 20 мінут, пакуль цыбуля не стане карычневай і мяккай.

### СПАРЖОВАЯ ФАСОЛЬКА

На 1 кг ці крыху больш фасолькі трэба ўзяць шклянку алею, 2 сярэднія цыбуліны, 1 зубок часнаку, 50 дэкаў спелых памідораў, зеляніну пятрушкі, соль, перац, 1 лыжку цукру.

Зняць з стручкоў фасолі валокны і парэзаць стручкі на кавалкі даўжынёю 2,5 см. У каструлі разагрэць алей, укінуць пасечаную дробна цыбулю і часнок, падсмажыць, але не занадта моцна. Дадаць памідоры без скурак і семечак, фасольку і вялікую жменю пасечанай зялёнай пятрушкі. Дасыпаць солі, перцу і цукру. Накрыць і тушыць на невялікім агні каля паўгадзіны. Падаваць гэту страву халоднай.

**ГАСПАДЫНЯ**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне! Сніцца мне, быццам прыехала я ў санаторый. Я прывезла з сабой туфлі майго нябожчыка-мужа. Але, на жаль, у санаторыі няма для мяне месца. Дык я размясцілася пакуль што ў калідоры. Бачу, што ўсе складаюць свой абутак у кучу. І я хачу палажыць туды свае туфлі, але яны раптам некуды прапалі. Я іх усюды шукаю, а іх нідзе няма.

Людзі ўжо апрануты, а я хаджу яшчэ ў кашулі. На кашулю я накінула кофтачку. Раптам заўважаю, што ў маіх руках нейкі абутак. Мае туфлі стаяць пад лаўкай, у іх — брудныя шкарпэткі.

Я бачыла, што на кучы старызны ляжала пара новых замшавых туфлёў, але яны мне не спадабаліся і я іх не ўзяла.Нарэшце знайшла свае.

Іншым разам мне ізноў сніўся абутак. Былі гэта невысокія боцікі, шнураваныя, чорныя. Я прымерыла іх. Яны мне не ціснулі. Нага ўвайшла, як у масла. Абцасік невысокі, якраз падыходзіць мне. Я іх надзела і бачу, што здзейснілася мая мара.

Што могуць абазначаць мае сны?

**Наталля**

Дарагая Наталля! Усе твае думкі круцяцца вакол нейкага падарожжа. І так мне ўсё ж здаецца, што нешта з гэтага выйдзе. Але праблемы будуць з гэтай паездкай. Усё прыйдзе не адразу. Спачатку з паездкай вынікнуць цяжкасці. Выплывуць таксама пры гэтым нейкія брудныя справы. Але другі сон пацвярджае, што нарэшце твае мары здзейсняцца і ты паедзеш у падарожжа, якога чакала. Тыя цудоўныя выгодныя боцікі!

**АСТРОН**

## АБ'ЯВА



# РАЗЕТКА НА «Ф»

**Управа:** 1/ адзяваецца на паказ, 2/ кіруе, седзячы на возе, 3/ з сямейства бабовых, 4/ правіў старажытным Егіптам, 5/ чахол на акуляры, 6/ вобраз, форма, 7/ вада знізу ўверх, 8/ бутэлечка для духоў,

**Уніз:** 1/ памешчык-прыгоннік, 2/ вырабы з высокаякаснай гліны белага колеру, 3/ адзенне, якое адзяваецца, каб не забрудзіць адзення, 4/ хімічны элемент, які свеціцца ў цемнаце, 5/ іначай стронга /у сярэдзіне *арэ*/, 6/ гульня мячом нагамі, а часам галавой, 7/ штукар, акрабат, фокуснік, жартаўнік, 8/ сталярскі матэрыял /*не ў сярэдзіне фары*/.

**ядань**

1 2 3 4 5 6 7 8

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на разетку з 30 н-ра. Управа:** разета, ракета, рабіна, рамонт, рэверс, разбой, разліў, рэчыва. **Улева:** ручнік, развява, ракіта, работа, раманс, рэванш, разора, развод.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: Анна Дзямянюк з Бельска-Падляшскага і Лукаш Пацэвіч з Беластока.

**Ніва**

**"Niwa"**

ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel.210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Antoniuk Fabryczny 13.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі) , Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Міранові ( галоўны рэдактар),Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Яланта Панфілюк (карэктар), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1993 r. upływa 20 listopada 1992 r.

2. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 32 500 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 3500 zł., a kwartalnie - 45.500 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# МАКАТРАЗМЫ

**КРОТ-КРАТОВІЧ**

Крот-Кратовіч не астыне,
Ён работаю гарыць.
Пакуль ногі не адкіне,
Пад табою будзе рыць.

**АДМЕТНАЯ**

Пяе - як дыхае,
Агідны дых яе.

**СІДАР МАКАЦЁР**

# КАЛЫХАНКА

- Жонка у камандзіроўцы,
Пі, саколік, пі,
Дай пагладжу па галоўцы, Ды ідзі паспі.
Шкалік я табе напоўню,
Будзеш давідна
Бачыць толькі сон чароўны
Ад майго віна.
Малайчына, мой саколік,
Зноў давай налью,
Не саромся, выпі болей,
Баюшкі-баю.
Сон твой светлы павартую,
Вер, саколік, мне,
Будзеш рыбку залатую
Ты лавіць у сне.
Вось цяпер ты - малайчына,
Пі, саколік, пі, А
трымаецца ўсё чынна,
Толькі моцна спі...
Сілай, розумам хваліўся,
Плесці стаў лухту.
І «саколік» заваліўся
Хутка на тахту.
Носам ён іграў з азартам
Ноч усю, а дзень.
У міліцыі назаўтра Плакаў,
целяпень:
- Прайдзісветка, прасталытка,
Я ёй пакажу! Нарабіла, як не брыдка,
Столькі крадзяжу! Грошы,
нават панталоны
Жончыны сплылі,
Да яе хіба законы
Нашы не дайшлі?
Аніякага сумлення
У яе няма, Ёсць адно маё маленне:
Суд ёй і - турма.
Ледзь не плюнуў участковы,
Выслухаў калі,
Ды нахмурыў толькі бровы:
- Пі, саколік, пі...

**РЫГОР ЯЎСЕЕЎ**






*Мал. Ігара Варашкевіча*

# НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Журналіст сустракае свайго знаёмага ў Ніццы:

— Стары, мне непрыемна гаварыць гэта, але пакуль ты знаходзішся тут, твая жонка ў Парыжы вядзе сябе вельмі дрэнна. Я сустрэў яе нядаўна з адным барадачом:

— У акулярах?

— Так.

— Рыжы?

— Так.

— А, ведаю, гэта Генры. Ён абсалютна неразборлівы ў знаёмствах.

* * *

Цёшча: Якое маленькае цудоўнае дрэўца на тваім газоне, Джон! Яно ўсяго адзін фут вышынёй.

Зяць: Так, я толькі пасадзіў яго. Спадзяюся, калі вы прыедзеце на другі раз, вы зможаце сядзець у яго цені.

* * *

Дарожны паліцэйскі спыняе аўтамабіліста і аб'яўляе:

— За праезд у недазволеным месцы з вас 50 крон штрафу! Ці ж вы не бачылі стралу?

— Я-я-я-ку-ю стралу? Я н-на-ват індзейца не прыкмеціў!

* * *

Гаспадыня дома пытае знаёмага псіхіятра, як ён выяўляе, ці нармальны перад ім чалавек.

— Вельмі проста, васпані. Трэба толькі задаць пытанне, адказ на якое ў нармальнага чалавека не выклікае ніякіх цяжкасцей. Напрыклад, капітан Кук, як вядома, зрабіў тры кругасветныя падарожжы. У часе аднаго з іх ён загінуў. У час якога, менавіта?

Гаспадыня нейкі час раздумвае, потым з нервовай усмешкай гаворыць:

— Ці не маглі б вы прывесці які-небудзь іншы прыклад? Павінна прызнацца, я не вельмі моцная ў гісторыі.

* * *

Звоняць. Гаспадар кватэры не адчыняе, але пытае цераз замкнутыя дзверы:

— Хто гэта?

— Калі ласка, некалькі крон для жабрака.

— Добра. Падсуньце іх пад дзверы.

* * *

Амерыканскі турыст заглядае ў кратэр вулкана і гаворыць:

— Падобна на пекла, ці не праўда?

Гід у здзіўленні пляскае рукамі.

— Ох, ужо гэтыя амерыканцы! Усё яны бачылі, усюды пабывалі.

* * *

— Дзядзька Гастон, — сказала гаспадыня дома, — чаму вы сцвярджаеце, што я пераджарыла біфштэкс? Вы проста трымаеце ў руцэ доўгаіграючую пласцінку!

* * *

Рэклама ў маленькай вясковай гасцініцы: „У нас цудоўнае месца, цішыня, чыстае паветра. Калі вы і тут не зможаце моцна спаць, значыць вас мучыць сумленне".

**Падборку зрабіў ЯСЕНЬ**

# АНЕКДОТ

Начальнік аддзела забеспячэння Зюкін пасля ўчарашняй п'янкі расказаў раніцай анекдот сваім падначаленым: шэф установы выдаваў заданні сваёй сакратарцы на рабоце, а іх выкананне правяраў у яе дома, у спальні...

Выбух рогату, шум, гам. Лыпае вачыма, іржэ, нібы конь, Боркін, абхапіўшы жывот, сагнуўшыся крукам; Квашня ўсплёсквае рукамі і заліваецца салаўём; Боўдзін хапае ротам паветра і ледзь не лезе пад зюкінскі стол. І толькі адзін Шракаў — само маўчанне, быццам безнадзейны пацыент перад апошняй хірургічнай аперацыяй.

— На гэтым нарада закончана, — абвяшчае задаволены сабой Зюкін. — За работу, спадары і таварышы. А Шракава папрашу затрымацца...

— У цябе што, непрыемнасці? — пытаецца Зюкін, калі застаецца сам-насам з падначаленым інжынерам.

— Ніяк не, — па даўняй армейскай звычцы адказвае яму былы прапар. — У мяне, Казімір Анціпавіч, усё ў парадку. З чаго вы ўзялі?

— У парадку, кажаш, а чаму не смяяўся? Анекдот жа — вышэйшы клас. Я ўчора яго ў гасцях запісаў. А ты — нібы Бурбон, надуты. Ну чыстая мумія. Між тым, пачуццё гумару ў цябе не горшае, чым у іншых. Дык у чым тады справа?

—А ў тым, Казімір Анціпавіч, што вы гэты анекдот у мінулым месяцы ўжо нам расказвалі. А яны па другому разу ржуць.

Сівы ветэран забеспячэння Зюкін на імгненне насупліае бровы, нешта перабірае ў памяці і раптам пляскае далонню па сваім стале:

— Ну артысты! Ну падхалімы! І хто іх толькі вакол мяне расплодзіў! А ты, Шракаў, малайчына. Адчуваю армейскую школу. Я такіх людзей паважаю. З імі — хоць у разведку, хоць на край свету. Ты вось што... Тут у мяне адна свабодная вакансія свеціць, за тваю рангам вышэй. Стаўка старшага інжынера. Так што хвіліна на роздум. Пярэчанні ёсць? Няма? Ну, вось і дамовіліся!

**ВЯЧАСЛАЎ ГІЛЕВІЧ**






Мілае Сэрцайка! Як ты думаеш, ці можна закахацца ў хлопца ад музыкі? Бо я закахалася.

Здарылася гэта, бадай, паўгода таму назад. Была яшчэ зіма. Я прыйшла да свайго сябра, каб крыху пасядзець, пагаварыць. Мы з ім любілі сустракацца, хаця нічога большага, апрача сяброўства, між намі не было. У яго свая кватэра — заўсёды адкрытая для яго блізкіх. Калі я ўвайшла, з хаты чуваць была мілагучная мелодыя. У сябра быў госць з Беластока, які прыехаў у наша мястэчка па службовых справах.

Я глянула на яго. Быў больш-менш у нашым узросце — гадоў дваццаці пяці. Цёмныя валасы, блакітныя вочы. Высокі, прыстойны. Гэта ён прывёз з сабою новыя запісы італьянскіх мелодый, якія ліліся з магнітафоннай стужкі. Мы пачалі размаўляць, слухаючы кранаючую за душу музыку.

Хлопец, які прыйшоў да майго сябра, падабаўся мне з кожнай хвілінай усё больш. Ужо праз дзве гадзіны мне здавалася, што менавіта яго кахала я цэлае жыццё, што іншага хлопца ў маім жыцці ніколі не было.

Падыйшла новая кампанія, хлопец і дзве дзяўчыны. Яны далучыліся да нас і мы гутарылі далей, папіваючы добрае віно. Я не зводзіла вачэй з беластоцкага госця. Час ляцеў хутка. Я прыйшла да свайго сябра ў канцы працы, недзе каля другой. Ужо была шостая, а я ж абяцала старэйшай сястры, што папільную ёй дзіця, бо яны з мужам некуды выязджалі. Што рабіць? Адна з прыйшоўшых дзяўчат надта ж увіхалася каля хлопца, які мне так спадабаўся.

Абавязак перад сям'ёй усё ж узяў верх і недзе каля восьмай я выйшла дадому. Той хлопец, які так зачараваў мяне (ён, музыка, віно) праводзіў мяне. На панадворку сарваў кветку з клумбы і даў яе мне. Пакінуў мне свой беластоцкі адрас і тэлефон. Мы цалаваліся, як шалёныя, на развітанне. Я была амаль перакананa, што сустрэла хлопца свайго жыцця. Ён умомант засланіў мне свет.

Выехаў, даведалася я, назаўтра. Усю ноч тая кампанія была ў майго сябра. Мне было крыўдна, што мяне там не было, але ж я мела той запаветны тэлефон. Праз некалькі дзён, у часе якіх я не магла ні есці, ні спаць — у вачах увесь час стаяў той хлопец, а ў вушах гучалі італьянскія мелодыі, — я вырашыла пазваніць. Трубку падняла... дзяўчына, якая прыйшла тады таксама да майго сябра і ўвесь час зыркала на госця з Беластока.

Высветлілася, што раніцай паехала з ім у Беласток і так ужо і засталася там. Што рабіць, Сэрцайка? Як вярнуць таго хлопца? Сэрца ные ад жалю і болю. Гэта ж я магла быць на месцы гэтай дзяўчыны.

**Ленка**

Ленка! Людзі кажуць: куй жалеза, пакуль гарачае. Ты празявала свой (можа, і жыццёвы) шанц з прычыны абавязку перад сям'ёй. Ты хацела стрымаць дадзенае сястры слова і прайграла сваю справу. Але думаю, што хлопец той не быў варты цябе, калі так хутка прамяняў сімпатыю да цябе на сімпатыю да той, з якой, праўдападобна, пераспаўся пазней.

А закахацца ад музыкі, вядома, можна, чаму не. Калі ж дадаць да гэтага яшчэ прыгожага хлопца з блакітнымі вачыма (а мо яшчэ доўгімі расніцамі) ды пахучае віно, дык можна мець і клопаты...

**СЭРЦАЙКА**